PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1852) 10 ЛІСТАПАДА 1991 г. ЦАНА 1000 зл.



ВОСЕНЬ. Фота В. Волкава.

## ЭМІГРАЦЫЯ НЕ ЗМОЖА ДАПАМАГЧЫ МНОГА

**Размова з ВАСІЛЁМ МЕЛЬЯНОВІЧАМ — беларускім эміграцыйным дзеячом са Злучаных Штатаў Амерыкі.**

— *Пра беларускую эміграцыю ў Амерыцы ў апошні час пісалася многа, але пра Вас і Вашу дзейнасць не ведаем амаль нічога. Раскажыце, калі ласка, пра сябе, пра свой жыццёвы шлях.*

— Нарадзіўся я ў 1934 годзе на Палессі, тады на ўсходніх крэсах Польшчы. Калі ў 1939 г. прыйшлі саветы, нас раскулачылі. Многія з маёй сям'і пацярпелі, некаторыя былі высланы ў Сібір, дзед быў замучаны. Пад час вайны мы рашылі ратавацца і не даць сябе знішчыць Сталіну. Выехалі ў Нямеччыну, працавалі на фабрыках. Хаця я быў маленькі хлопец, працаваў таксама, каб дастаць рабочы паёк. Працаваў па 12—13 гадзін. Не хадзіў я ў школу, а чытаць і пісаць пачаў ва ўзросце 10—11 гадоў. Пасля вайны апынуліся мы спачатку ў польскім лагеры ў Нямеччыне, а потым пераехалі ў беларускія лагеры. Там я пачаў хадзіць у беларускую пачатковую школу, потым пайшоў у беларускую гімназію, але яе не закончыў, бо ў 1950 годзе наша сям'я пераехала ў Амерыку. Апынуліся мы ў Нью-Йорку, дзе я і закончыў амерыканскую гімназію. У карэйскі час я два гады служыў у войску. Пасля выхаду з арміі стаў я працаваць па розных фірмах, а вечарова — вучыцца на інжынерскіх курсах. Войска плаціла мне грошы, каб я мог здабыць асвету. Пасля чатырох з паловай гадоў навукі я атрымаў дыплом інжынера-механіка. Потым стаў працаваць у АТТ — самай вялікай тэлефоннай фірме ў Амерыцы. Тая фірма дапамагла мне здабыць вышэйшую асвету па менеджэрству. У АТТ працаваў я 27 з паловай гадоў і ў 55 гадоў пайшоў на пенсію. Фірма прыняла такую сацыяльную праграму, каб зменшыць лік рабочых, і ў сувязі з тым яны нас падахвоцілі, падмазалі, каб раней пайсці на пенсію. Я з ахвотай сустрэў тую прапанову, каб мець больш часу на беларускія справы.

— *У якіх беларускіх арганізацыях Вы дзейнічалі?*

— Прыехаўшы ў Амерыку, я належаў да арганізацыі беларускай моладзі, звязаны быў з часопісам „Беларуская моладзь", а нейкі час быў я яго тэхнічным рэдактарам. Часопіс быў англамоўны, але друкаваў і беларускія артыкулы. Выходзіў ён у 1950-60-тых гадах. Менш актыўны быў я ў Беларуска-амерыканскім задзіночанні і ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве.

(Працяг на стар. 5)

*******************************************************************

## НАША СПАТКАННЕ З ПРЭМ'ЕРАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Візіт дзяржаўнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у Польшчу 10—11 верасня г.г. быў нанесены з мэтай падпісання дэкларацыі аб добрасуседскіх суадносінах і супрацоўніцтве з Польшчай і ўзгаднення асноўных пытанняў, неабходных для рэалізацыі гэтай дэкларацыі, падпісанай прэм'ер-міністрамі абодвух бакоў.

Па прапанове старшыні дэлегацыі прэм'ера Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча 11-га кастрычніка адбылося спатканне гасцей з прадстаўніцтвам беларускай меншасці.

Дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг на гатэлі для замежных дыпламатаў, у якім знаходзіліся беларускія госці, прывітанні і гутаркі на роднай мове з кіраўніцтвам суверэннай (хай сабе й не наскрозь яшчэ) Рэспублікі Беларусь — усё гэта зрабіла моцнае ўражанне, незалежна ад свядомасці куртуазнага характару спаткання.

Прэм'ер В. Кебіч прывітаў прысутных, прадставіў членаў беларускай дэлегацыі:

Пятра Садоўскага — старшыню Камісіі па замежных справах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь,

Уладзіміра Ракевіча — старшыню Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях,

Пятра Мірачэўскага — міністра сельскай гаспадаркі,

Уладзіміра Сянько — намесніка міністра замежных справаў,

Валерыя Мядзведзева — кіраўніка сакратарыята прэм'ера,

Мікалая Петрушкевіча — намесніка кіраўніка гандлёвага прадстаўніцтва СССР — прадстаўніка Беларусі,

пасля чаго паінфармаваў аб мэтах візіту і аб падпісанні дэкларацыі, якая з'яўляецца толькі пачаткам нармавання суадносін між суседнімі дзяржавамі.

Янка Жамойцін, адказаўшы на прывітанне, павіншаваў усіх з падпісаннем дэкларацыі аб добрасуседскіх суадносінах і супрацоўніцтве між Польшчай і Беларуссю, падкрэсліў гістарычнае значэнне візіту прэм'ера Рэспублікі Беларусь у Польшчу, а для дэлегацыі беларускай меншасці ў Польшчы — спаткання з прадстаўніцтвам найвышэйшых уладаў Рэспублікі Беларусь, адрэкамендаваў прысутных членаў мясцовай дэлегацыі беларусаў, з жалем падкрэсліў адсутнасць прадстаўнікоў моладзі — авангарда грамадскай дзейнасці беларускай меншасці ў Польшчы — з прычын арганізацыйных.

Мікола Алексяюк — член Прэзідыума Галоўнага праўлення і старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ, ён жа член кіраўніцтва Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і старшыня Рады нацыянальных меншасцяў у Польшчы — паінфармаваў аб сітуацыі беларускай меншасці на працягу пасляваеннага перыяду, аб стане беларускай асветы, культуры, беларускіх культурна-асветных і грамадскіх арганізацыяў, аб праблемах веравызнанняў, дасягненнях і цяжкасцях беларускага асяроддзя. Маючы на ўвазе нарастаючыя матэрыяльныя цяжкасці, сцвердзіў, што неабходна наладжваць гаспадарчую дзейнасць супольна з прадпрыемствамі на Беларусі. Звярнуў увагу на неабходнасць супрацоўніцтва з беларускімі навукоўцамі і навуковымі

(Працяг на стар. 3)




### НЕПАСЛЯДОЎНАСЦЬ

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Мабыць, каля года таму назад быў я чарговы раз на Беларусі. Характэрнай рысай вуліцы было тое, што многія жыхары Менска насілі ў кляпах або значкі з Пагоняй, або бел-чырвона-белыя сцяжкі. Не было гэта з'явай масавай, аднак, час ад часу сустракаў я(у асноўным)маладога чалавека, які насіў так званую нацыянальную сімволіку. Газеты кансерватыўнага плана выступалі супраць гэтай моды. Асабліва злосная атака была праведзена бадай што ў „Звяздзе", якая, абураючыся на нейкую там дэманстрацыю, арганізаваную Беларускім народным фронтам, змясціла здымак, на якім была паказана моладзь, што несла бел-чырвона-белы сцяг, Пагоню ды партрэт Гітлера і свастыку. Гэты фотамантаж быў зроблены так хітра і подла, што многія чытачы былі пераканаы ў тым, што гэта сучасная беларуская моладзь праяўляе свой энтузіязм у адносінах да Гітлера і гітлерызму. Запамяталася мне гасціна ў аднаго высокапастаўленага чыноўніка ў адным з беларускіх міністэрстваў. Яго жонка, ведаючы, што я з'яўляюся беларускім паэтам і прыхільнікам беларускага адраджэння ды дзяржаўнага рангу беларускай мовы, совала мне пад нос газету і абураным голасам гаварыла: „Посмотрите, они восхищаются Гитлером. И это после всех наших страданий, которые перенёс наш народ от гитлеровских головорезов!"

У сувязі з тым, што я ўжо крыху раней прачытаў артыкул і дакладна прыглядзеўся да здымка, дык меў яснасць, што маем тут дачыненне з містыфікацыяй. Было ясна, што рэдактары газеты пад артыкулам, прысвечаным дзеянням Беларускага народнага фронту, змясцілі не актуальны здымак, а здымак з часоў акупацыі. У тыя часы дэманстрацыі такога тыпу мелі, несумненна, месца і беларуская тагачасная моладзь прымала ў іх большы ці меншы ўдзел. Гэта, аднак, у ніякім выпадку не давала права рэдактару змяшчаць такі здымак без аднязначнага выяснення яго радаводу.

Так ці інакш, ствараўся тады ў Беларусі варожы клімат вакол тых, хто насіў нацыянальную сімволіку. Варожыя адносіны да такога тыпу людзей праявіліся не толькі сярод жонак міністэрскіх чыноўнікаў, але і сярод афіцыйных колаў. Недарэчлівай іх праявай сталася пастанова Вярхоўнага Савета БССР адносна афіцыйнага праследавання „носьбітаў" бел-чырвона-белых сцяжкоў і Пагоняў. Пастанова гаварыла аб штрафаванні ўсіх тых, у каго міліцыя пабачыць сцяжок або Пагоню.

Цяжка мне сказаць, колькі чалавек міліцыя аштрафавала. Няма сумненняў, што такія выпадкі былі. Гаварылі мне маладыя людзі з Саюза пісьменнікаў, што міліцыя знімала штраф у суме пяцідзесяці рублёў. Беручы пад увагу, што сярэдняя зарплата тады раўнялася 140—150 рублям, быў гэта штраф вялікі. Прыемна было слухаць аднаго маладога чалавека, які заявіў: „Я ўжо раз заплаціў пяцьдзесят рублёў, але, як бачыце, у далейшым нашу значок і насіць буду". Пастанова Вярхоўнага Савета ў гэтай справе, несумненна, сведчыла аб нацыянальным нігілізме гэтай арганізацыі.

І раптам нядаўна, пасля няўдалага путча, як гром з яснага неба прыляцела з Менска вестка, якая гаварыла аб тым, што Беларусь афіцыйна прыняла нацыянальную сімволіку ў форме бел-чырвона-белага сцяга і Пагоні. І хто, вы думаеце, прыняў такую пастанову? Прыняў яе Вярхоўны Савет БССР, гэта значыць, той самы найвышэйшы дзяржаўны орган, які год таму назад пастанавіў праследаваць і штрафаваць усіх тых, хто выкарыстоўвае нацыянальную сімволіку.

Многа ёсць на свеце недарэчлівасцей і непаслядоўнасцей, аднак, гэта непаслядоўнасць не можа не здзіўляць. Хацелася б тых дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі, якія на працягу аднаго года так супрацьстаўна выступілі „супраць" і „за" тую самую ідэю, спытаць: дзе, таварышы-панове, ваш розум і гонар? Мне асабіста здаецца, што можна і не пытаць, бо такога тыпу людзі заявяць, што маюць і розум і гонар, хоць апісанае мною здарэнне сведчыць аднаназначна, што няма ў іх ні першага, ні другога.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

---




**У новым Сейме** найбольш мандатаў здабыла Дэмакратычная унія (62) і Саюз левых дэмакратаў (60). У сёлетніх выбарах прымалі ўдзел выбарчыя камітэты нацыянальных і рэлігійных меншасцяў. Выбарчы камітэт нямецкай меншасці атрымаў 7 мандатаў, а Выбарчы камітэт праваслаўных — 1. Прайгралі выбары **Беларускі выбарчы камітэт** і Выбарчы блок меншасцяў, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі ўкраінцаў, літоўцаў, чэхаў і славакаў.

**Яўген Чыквін,** выбраны паслом ад Выбарчага камітэта праваслаўных, сказаў для „Газеты Всполчэснай": „Я праваслаўны беларус і ў сітуацыі, калі ў Сейме, праўдападобна, не стане прадстаўнікоў украінцаў і Беларускага выбарчага камітэта, лічу за свой абавязак прадстаўляць інтарэсы і нацыянальныя імкненні праваслаўнай грамадскасці. У галіне эканомікі і гаспадаркі буду садзейнічаць з усімі, каму справы вёскі блізкія сэрцу."

У Заблудаве і навакольных мясцовасцях праходзілі **Дні хрысціянскай культуры.** Найважнейшым мерапрыемствам аказаліся **II Заблудаўскія сустрэчы з сакральнай музыкай і паэзіяй**, у якіх прыняло ўдзел дваццаць індывідуальных і калектыўных выканаўцаў. Журы пад кіраўніцтвам беластоцкага акцёра **Ежы Сеха** ўзнагародзіла першым месцам **Маладзёжны хор са Свята-Мікалаеўскага сабора ў Беластоку.**

**Архіепіскап Варфаламей I** (51 гадоў) выбраны Свяшчэнным сінодам новым экуменічным патрыярхам Канстанцінопаля. Архіепіскап Варфаламей быў да гэтай пары намеснікам патрыярха Дзімітрыя I, які нядаўна памёр ад інфаркта ва ўзросце 77 гадоў. Варфаламей I з'яўляецца 270 экуменічным патрыярхам, духоўным кіраўніком 250 мільёнаў праваслаўных вернікаў ва ўсім свеце.

**26 кастрычніка** г.г. на фасадзе чырвонага касцёла ў Менску былі урачыста ўстаноўлены адліты з бронзы **герб Менска** ў выяве Божай Маці.

**У Жодзіна асвечана новая царква.** Абрад правёў патрыяршы экзарх Беларусі, мітрапаліт **Філарэт.**

Каля 80 юнакоў вучацца біблейскай гісторыі па-беларуску. Выкладае яе ў Менскай духоўнай семінарыі, змешчанай у Жыровічах, **а. Сергій Гардун.**

## ЯК ГАЛАСАВАЛІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У парламенцкіх выбарах у Польшчы, якія прайшлі 27 кастрычніка 1991 года, выбіралі мы двух сенатараў у Беластоцкім ваяводстве і дванаццаць паслоў у выбарчай акрузе, якая ахоплівала Беластоцкае і Сувальскае ваяводствы. У Беластоцкім ваяводстве ў выбарах прыняло ўдзел 226 378 выбаршчыкаў.

Сенатарамі з Беластоцкага ваяводства сталі: Іранэуш Харашуха (71 684 галасы) і Ян Шафранец (59 154 галасы). Кандыдат у сенатары Беларускага выбарчага камітэта Ян Чыквін атрымаў 30 640 галасоў.

Пасламі з беластоцка-сувальскай выбарчай акругі сталі: Станіслаў Сянкевіч, Аляксандр Малахоўскі, Яўген Чыквін (10 224 галасы), Кшыштаф Якуб Путра, Галіна Станіслава Стрэмбска, Аляксандр Усакевіч, Дарыуш Багускі, Вальдэмар Кшыштаф Польчынскі, Ежы Капаня, Уладзімеж Цімашэвіч (52 677 галасоў — 16,35 % галасоў ва ўсёй акрузе), Януш Генрык Шыманскі, Пётр Крутуль.

Кандыдаты ў паслы Беларускага выбарчага камітэта атрымалі ў беластоцка-сувальскай акрузе агулам 4 435 галасоў:

| | | |
|---|---|---|
| Віктар Стахвюк | — | 1 429 |
| Васіль Ляшчынскі | — | 1 600 |
| Валянцін Сельвясюк | — | 147 |
| Міраслаў Целушэцкі | — | 143 |
| Пятро Багроўскі | — | 147 |
| Аляксандр Максімюк | — | 269 |
| Віктар Швед | — | 153 |
| Васіль Дамброўскі | — | 190 |
| Уладзімір Лукошык | — | 121 |
| Анна Клімюк | — | 93 |
| Пятро Крук | — | 143 |

Інфармацыю пра вынікі галасавання на кандыдатаў БВК у іншых ваяводствах надрукуем пазней.




- Што з бельскімі „Васілёчкамі".
- Збожжа за паліва - прапануе фірма „Амега".
- Гуртох беларускай моладзі ў Гродне ў 1913 годзе.
- Весткі з Клюковіч, Сяміхоч і Нараўкі.
- Структура ашуканства.
- „Прысутнасць".



## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА „НІВУ" НА І КВАРТАЛ 1992 Г.

**Уплаты на падпіску прымаюць:**

— на тэрыторыю краіны — аддзелы „Рух" і паштовыя аддзяленні, уласцівыя для месца жыхарства або сядзібы падпісчыка. Цана 19500 злотых;
— на замежжа — Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, 00-958 Warszawa, konto PBK, XIII Oddział W-wa, 370044-1195-139-11. Цана звыклай поштай 39000 зл.

**Пастаўка заказанай прэсы адбываецца:**
— аддзеламі „Рух" — спосабам, узгодненым з падпісчыкам;
— паштовымі аддзяленнямі — звыклай поштай на пададзены адрас, у рамках аплачанай падпіскі.

**Тэрмін падпіскі** — да 20 лістапада 1991 г.

**На „Ніву" можна таксама падпісацца ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве,** пералічыўшы грошы на рахунак: ZG BTSK Białystok, ul. Warszawska 11, konto NBP O/O Białystok, 5021-3203-132. БГКТ высылае „Ніву" бандэроллю па пошце. Цана квартальнай падпіскі ў краіне — 39000 зл. Кошт квартальнай падпіскі авіяпоштай у Амерыку — 10 ам. дол., у Аўстралію — 14 ам. дол. Змена цаны падпіскі ў БГКТ можа быць выклікана зменай коштаў паштовай перасылкі.

# НАША СПАТКАННЕ З ПРЭМ'ЕРАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

( Працяг са стар. 1 )

ўстановамі ў галіне гісторыі і наогул асветы ды культуры, пастаўкі на прыемлівых умовах навуковай літаратуры.

Галена Анішэўская — сакратар Варшаўскага аддзела БГКТ — унесла некалькі заўвагаў арганізацыйнага характару.

Фёдар Галёнка — член Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, старшыня Камісіі па гаспадарчых справах — выказаў думку наконт стварэння фонду культуры для Беларусі і Беласточчыны, магчымасці гандлёвых кантактаў з прывілеямі ў пошліне, мэтазгоднасці стварэння зоны бяспошліннага гандлю, арганізавання супольных беларуска-польскіх гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў.

Міхась Пячонка — кандыдат у паслы ў Сейм Рэчыпаспалітай са спіску Беларускага выбарчага камітэта — звярнуў увагу на неабходнасць забеспячэння супольнага крытэрыю ў ацэнках статусу меншасцяў беларускай у Польшчы і польскай на Беларусі, канстытуцыйнага запісу праваў меншасцяў і аб'ектывізацыі інфармацыяў шляхам узгаднення іх абодвума зацікаўленымі бакамі.

Прэм'ер В. Кебіч падкрэсліў зразуменне і адабрэнне ўсіх закранутых праблемаў і выказаў магчымасць бясплатнай пастаўкі беларускаму асяроддзю ў Польшчы беларускай навуковай літаратуры, школьных падручнікаў, папаўнення настаўніцкіх кадраў, дапамогі Беларускаму аб'яднанню студэнтаў, забеспячэння прысутнасці прадстаўнікоў беларускага асяроддзя пры рашэнні яго праблемаў. Нармаванню многіх справаў паслужаць консульствы, што ў хуткім часе разгорнуць працу адпаведна ў Менску і ў Варшаве, а ў блізкай будучыні ў Беластоку і ў Гародні.

Пятро Садоўскі заўважыў, што рэгуляцыя праблемаў, аб якіх тут была мова, пойдзе шляхам хельсінскага працэсу, што ў дыпламатыі няма паняцця меншасці. Ёсць паняцце грамадзянства і роўнасці ў маестаце права. Наконт праблем веравызнання паінфармаваў, што на Бацькаўшчыне развіваецца жывы працэс беларускамоўнага касцёла. Звярнуў увагу на старанні злагоджання і ўпрашчэння гранічных умоваў у кантактах між грамадзянамі Польшчы і Беларусі.

Я. Жамойцін закрануў пытанне статуса Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" і адносін да яго, а далей — магчымасцяў пашырэння засягу Беларускага тэлебачання з мэтай папулярызацыі ведаў пра Беларусь сярод польскага насельніцтва. Прэм'ер В. Кебіч заявіў, што ад часу ліквідацыі камуністычнай партыі сітуацыя БНФ стала іншай у пазітыўным значэнні. У доказ сказанага спаслаўся на канструктыўнае супрацоўніцтва розных палітычных арыентацыяў у вырашэнні грамадскіх і дзяржаўных праблемаў Рэспублікі Беларусь. Пытанне пашырэння дыяпазону Беларускага тэлебачання на абшар Польшчы ацаніў як важнае і актуальнае ў даны момант.

Спатканне праходзіла ў атмасферы незбянтэжанасці і ўзаемнага зацікаўлення.

На заканчэнне Мікола Алексяюк запрасіў прэм'ера В. Кебіча наведаць Беласточчыну пры найбліжэйшай магчымасці.

**Запісаў:**
**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

*************************************************************************




## СВЯТЫ ДЗІЯНІСІЙ, ЕПІСКАП ПОЛАЦКІ

Полацк, адзін з найстарэйшых гарадоў Беларусі, быў у XI—XIII стагоддзі яе духоўнай сталіцай. Пранікалі туды візантыйскія, кіеўскія і ноўгарадскія ўзоры матэрыяльнай і духоўнай культуры. У Полацку быў найстарэйшы епіскапскі пасад (заснаваны ў 992 г.), найстарэйшыя нашы хрысціянскія святыні, наймацнейшы цэнтр манашаскага жыцця і асяродак распаўсюджвання кніжнае асветы і саміх кнігаў. Таму нічога дзіўнага, што з Полацка выводзіцца найбольш беларускіх святых: св. Ефрасіння, св. Мін, св. Сімяон і св. Дзіянісій.

Жыццё Дзіянісія прыпадае на XII стагоддзе — перыяд найбольшага палітычнага і культурнага развіцця Полацка. Няма сумненняў, што рост культуры і пашырэнне асветы было вынікам пашырэння хрысціянства. У такіх умовах правёў сваю маладосць святы Дзіянісій. Ужо ў маладыя гады паступіў ён у Спасаўскі манастыр. Вучыўся духоўнаму жыццю ад тагачасных полацкіх епіскапаў: Міна (1105—1116), Ільі (1120—1129), Козмы — грэка (1143—1156). У манастыры атрымаў старанную адукацыю. Адданасць праваслаўнай веры і паходжанне з выдатнага полацкага роду давяло яго ў 1166 годзе на полацкую кафедру.

Аб дзейнасці свяціцеля Дзіянісія як епіскапа мы ведаем з жыцця св. Ефрасінні. У 1166 годзе ён як новы



ўладыка пастрыг паслушніц св. Ефрасінні, дачок князя полацкага Вячаслава, у манахіні. Падзея гэта адбылася ў царкве св. Спаса. У пастрыжэнні Кірынія атрымала імя Агата, а Ольга — Яўфімія. Разам са св. Ефрасінняй полацкі святы Дзіянісій апрацаваў устаў для абодвух полацкіх манастыроў: мужчынскага і жаночага. Ігуменства над жаночым манастыром ...аказаў сястры Ефрасінні — Еўдакіі. Дзіянісій быў таксама ініцыятарам паломніцтва Ефрасінні ў святую зямлю. Пасля смерці святой Ефрасінні (23 мая 1173г.) быў першым іерархам, які выдаў пастанову святкаваць памяць Ефрасінні і прызнаваць яе сваёй заступніцай у небе.

У часы епіскапства Дзіянісія сабраўся ў Полацку вялікі гурток асвечаных манашак-князёўнаў, якія захацелі ісці верна шляхам заснавальніцы Спаскага манастыра. Такім шляхам пайшоў і мужчынскі манастыр св. Багародзіцы. Магчыма, што дапамагло ў гэтым прызнанне святасці св. Ефрасінні яшчэ пры жыцці епіскапа Дзіянісія. У гэтым часе быў напісаны першы жыццяпіс святое, які хутка быў пашыраны па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Св. Дзіянісій стараўся прывезці мошчы святой полацкай і, хаця гэта яму не ўдалося, то ён быў стваральнікам культу Ефрасінні. Гэта быў дар Божы, які ўласціва ацаніла Праваслаўная царква, кананізуючы Дзіянісія — епіскапа полацкага.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**



*Полацк. Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра. XII ст. ( рэканструкцыя П. Рапапорта і Г. Штэндара)*




* * *

Дзяцінства майго златагрывыя Коні
Сноў і мараў маіх скакуны,
Я з калыскі у вашай Пагоні,
Толькі цяпер гэта ява, не сны...

Наша Пагоня — за лепшую долю,
Наша Пагоня — за годнасць сваю...
Беларусы, выходзьце з цямніцы на волю,
Бярыце Свабоду, свой Лёс і Зямлю.

Пара ўжо і нам на Кані быць, як людзі,
А не вандэяй плясціся
па свеце ў хвасце.
Гэта толку ў нас не было і не будзе,
Кветка Шчасця Купальская
не прарасце...
Дык ці не час ужо, братцы,
і нам „людзьмі звацца",
А не быць пад чыімі ярмом і пятой.
Хіба ж мы не такая дастойная нацыя,
Каб не толькі мець Хлеб,
але й Гонар свой?

І Курапатаў, Гулагаў з нас годзе,
Чарнобыльскай годзе бяды...
Шаноўны спадар, беларускі Народзе,
Свабода і Праўда
ў тваё няхай стануць рады.

* * *

Талеркі, НЛА там усякія
Садзяцца,
узлятаюць
Недзе ў іншых...
О, Неба!

А ў нас у двары прызямляюцца
Толькі адны вароны,
Ды алкаголікі часам
здараюцца,
Калі моцна адліць ужо
трэба...

* * *

Дваццаты век —
век неразумнікаў,
прапойцаў
і калек...

Ты ўжо даўно
Не век аратых,
а век дэбілаў
і дэгенератаў,

якія толькі кайфаваць
і перадаць ахвочы,
а вось рабіць
ніхто не хоча.

6.02.91 г.

З блакнота часоў культу і застою
АСЕННІ ЭЦЮД

Хоць і флагі рэюць
Над праўленнем ярка,
Надта невясёлыя
Пачаліся дні...
Хлеб у нарыхтоўку
Ўвесь адплыў абозамі —
„родине подарками",
Засталіся ў кніжках
Палкі — працадні...

За ўсё лета працы
Ў юбілейным годзе
Каб зярнятка кінулі
Нам хоць на падман.
Сонейка і тое
З хмараў не выходзіць —
Мусіць, гэтаксама
Выкапала план.

**АЛЕСЬ ДЗЕМІДОВІЧ**



### ЯК Я КАЛГАС АРГАНІЗАВАЦЬ ПАМАГАЎ

За выдатную службу ў арміі мяне ўзнагародзілі паездкай на Пазнанскую ярмарку. Экскурсія трывала 13 дзён і як на 1948 год гэта было вельмі добра, бо адпачыў ад амаль штодзённых алярмаў і безупынных ды бескарысных заняткаў вайсковае службы.

Вярнуўся з ярмаркі ў штаб батальёна ў Санок, адзін афіцэр запытаў у мяне: „Калі ты, недаступная разява, паедзеш у водпуск?" Ён, мусіць, не ведаў, што я толькі што вярнуўся з экскурсіі. Я згадзіўся ехаць нават і сёння. Аформіўшы патрэбныя дакументы, я хутчэй памыўся, пераапрануўся і гайда на вакзал. У дарозе, памятаю, ля мястэчка Майдан нехта затрымаў цягнік. Калі я выглянуў праз акно, нейкі цывіль з аўтаматам навярнуўся да мяне і крыкнуў: „Схавай морду, ты, сталінскі прыслужнік, бо так і зляцішь!" А я яму на гэта: „Пацалуй ты мяне ў с..., бандыт!", і сеў на сваё месца, бо людзі прымусілі. Праз нейкую хвіліну зайшло ў вагон трох мужчын з аўтаматамі і спыталі, каго маюць у с... цалаваць. Якаясьці жанчына паказала на мяне. Падыйшлі, наляскалі па мордзе, павалілі, наштурхалі ботамі ды пайшлі. Я цешыўся, што не забралі мяне з сабою і пакінулі афіцэрскую сумку. Дакументы і пісталет узяў у мяне раней нейкі чалавек, які сядзеў у тым самым купэ. Ён ведаў, што будзе. Аказалася, што „лясныя" спяшаліся, забралі з цягніка грошы і падаліся ў лес. Цягнік весела паімчаўся ў Люблін. Там „хуткая дапамога" абмыла мяне, забінтавала і так я паехаў у родную старонку. У нядзелю ў Грабаўцы адбываўся нейкі сялянскі сход. Перад тым прыйшоў да мяне Паўлюсёк і кажа: Васька, прыдзі сёння на сход і памажы мне падмовіць, або прымусіць гэтае кулачко арганізаваць калгас. Я згадзіўся, бо падумаў, што гэта будзе працай працейшага. Я ж чуў, што сяляне ў чэргах стаяць і просяць, каб іх у калгас прынялі.

Людзі, замест у царкву, прыйшлі на сход, бо цікавіліся, што там скажуць, а з другога боку баяліся, што калі не пойдуць на сход, то Паўлюсёк можа недзе нешта на каго падказаць. Згодна з дамовай, зайшоў і я.

Святліца была поўная, людзі сядзелі хто на чым мог і як мог. Сход вёў Паўлюсёк. Сяляне паглядалі на мяне, паабіванага, з сінякамі, ды ўсміхаліся ні то з сімпатыяй, ні то думалі: „Ага, дастаў пан капрал!" А я сядзеў і ўважна слухаў, што гаворыць старшыня сходу і меркаваў, што мне сказаць. Паўлюсёк то падмаўляў, то пакрыкваў, каб пісаліся ў калгас, а тыя, шасці-васьмігектарныя кулакі маўчаць і ўсё. Тады Паўлік не вытрымаў і крыкнуў: „Зараз пабачым, як вы засяпаеце, калі прамовіць да вас наш зямляк, пакалечаны, пасінячаны капрал Васька! Вы не думайце, што яму два лычкі далі дарма! Калі наш хлапец у такім мундзіры, то вядома, што ўжо не з адной печы хлеб еў. Ён, брат ты мой, ужо два гады ўмацоўвае нашу, савецкую ўладу, а вы як яму памагаеце? Вы слухаеце ворагаў нашай дэмакратыі і гатовы прадаць сваю родную ўладу, каб толькі не пайсці ў калгас, ды не ўзбагаціць нашае гасударства." Хтосьці перабіў Паўлюська і крыкнуў: „Паўлюсь,

( Працяг на стар. 5 )



## Свойскія малюнкі



**Вёска Шымкі.**
*Мал. У. Петрука*

# СЕМ'І ВАРМІІ - ДЗЕЦЯМ БЕЛАРУСІ

У студзені гэтага года ў Менску была падпісана дамова паміж польскай касцельнай арганізацыяй „Карытас" і беларускімі арганізацыямі аб адпачынку дзяцей, пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі. Акцыю адпачынку назвалі „Сем'і Польшчы — дзецям Беларусі". Дамову з польскага боку падпісаў ксёндз-пралат Здзіслаў Савінскі — намеснік старшыні „Карытаса", а з беларускага — ксёндз-біскуп Тадэуш Кандрусевіч і прадстаўнікі пяці арганізацый, між іншым, харытатыўнага цэнтра „Водгук". Беларускі бок абавязаўся забяспечыць дзецям транспарт у Польшчу і назад. Паводле гэтай дамовы ў Польшчы ў трох турах прабывала 4000 дзяцей з зоны, забруджанай радыяцыяй. Аб тым, як гэтая акцыя праходзіла на Варміі, расказвае дырэктар аддзела „Карытас" у Ольштыне ксёндз **Браніслаў Сякерскі:**

— У Вармінскай дыяцэзіі правяло канікулы 720 дзетак з Беларусі. Прымалі мы іх у трох месячных турах. У чэрвені прыехала 320 дзяцей, у ліпені — 120, а ў жніўні — 280. Прынялі мы менш, чым планавалі ў студзені, але прычынай гэтаму была неабходнасць датрымаць варункі падпісанай дамовы. На Беларусі забруджана не толькі паветра, але і харчаванне. Мы хацелі даць нашым госцям здаровую ежу і правесці апітэрапію (лячэнне мёдам). Кожнае дзіця атрымала патрэбную порцыю мёду і прэпарата „Propolis". Дбалі мы таксама і пра духоўны бок пабыўкі. Дзеці з першага тура перажылі незабыўную сустрэчу з папам Янам Паўлам II у Ольштыне. Арганізавалі мы ім розныя экскурсіі па Варміі і Мазурах. Дзеці наведалі таксама савецкія могілкі каля Бранева.

Акцыя адпачынку беларускіх дзяцей магла здзейсніцца толькі пры дапамозе людзей добрай волі з нашай дыяцэзіі. Хачу тут выказаць сардэчную падзяку тым сем'ям, якія прынялі да сябе на месяц беларускіх дзяцей. Гэтым самым паказалі яны сваё вялікае сэрца, праверылі свае адносіны да Бога і да чалавека.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ - ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

### II. МАКСІМ БАГДАНОВІЧ АБ БЕЛАРУСІ

Чарговы тэзіс аўтара, які знаходзіцца ў „Белорусском возрождении" і які Алег Лойка назваў няспелым, гучыць: беларуская культура мае свае нацыянальныя асаблівасці і ніякім чынам не з'яўляецца простым варыянтам культуры велікарускай. Паводле Багдановіча, беларуская і велікаруская культуры — два самастойныя комплексы, з самага пачатку ўзрастаўшыя незалежна ад сябе, розныя нават бытавымі першаасновамі, уплывам, накіраваным з бакоў, здарэннямі далейшага гістарычнага жыцця, таму гістарычная доля абоіх народаў была іншая.

Велікарускі народ, „асіміляваўшы масу фінскіх плямёнаў, ужываючы іхні, дапасаваны да навакольных умоў бытавы ўклад і, такім чынам, адхіліўшыся ад спаконвечнага славянства як антрапалагічна, так і культурна, у давяршэнне ўсяго ён перажыў эпоху татаршчыны і апынуўся амаль што зусім адрэзаны ад Заходняй Еўропы".

Беларуская культура развівалася нягледзячы на прыналежнасць Беларусі да Літоўскага княства, таму што беларуская культура ўзяла верх над культурай Літвы. На беларускай мове адбываўся суд, пісаліся акты і граматы. Усё гэта, працягвае Багдановіч, замацоўвала культурныя асновы і ў той жа час было адным з элементаў руху беларускай нацыі. Таксама эканамічнае збліжэнне з Еўропай і будова гарадоў на аснове магдэбургскага права было значным элементам у працэсе фармавання беларускай культуры. Дзякуючы гэтаму, агульны інтэлектуальны пад'ём, які пачаўся ў эпоху Адраджэння, адбіўся і ў Беларусі, у якой „крыніцаю забіла тут жыццё, шла дзівосна пераплятаючыся гарачая рэлігійная, нацыянальная і класавая барацьба, арганізаваліся брацтвы, якія былі апорай беларускай народнасці, закладаліся друкарні, адчыняліся школы з нечакана шырокай, як на гэты час, праграмаю (у некаторых выкладалася пяць моў), узнікалі вышэйшыя навучальныя ўстановы (юрыдычная школа імя св. Яна, Полацкая акадэмія з правамі універсітэта і г.д.)" (пераклад мой, — Я.Т.).

Багдановіч бачыў пад'ём беларускага нацыянальна-культурнага руху як адбітак агульнаеўрапейскага духоўнага руху ў эпоху Адраджэння. І ў гэтым не памыляўся. Нават, калі некаторым недаспадобы яго тэзіс аб адасобленасці беларускай культуры ад велікарускай, у час, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, напэўна аўтар у многім меў рацыю.

Алег Лойка прыкмячае, што вызначэнне Багдановічам ролі горада ў развіцці беларускай культуры і літаратуры XIV-XV ст.ст. было зроблена не без уплыву на яго кнігі аб Францыску Скарыне П. В. Уладзімірава, у якой шырока асвятлялася тагачаснае жыццё, роля ў ім брацтваў і інш.

У сваім артыкуле далей Багдановіч аналізуе перыяд упадку беларускай культуры, які ў значнай меры быў звязаны з адыходам ад ужывання беларускай мовы як дзяржаўнай і заменай яе польскай. „Пазбаўлены класаў, моцных гаспадарча і культурна, прыгнечаны прыгонніцкай залежнасцю, беларускі народ не толькі не мог развіваць далей сваю культуру, але не меў магчымасці нават проста зберагчы ўжо раней здабытае. Толькі асноўныя, першапачатковыя элементы культуры (як мова, звычаі і г.д.) здолеў ён захаваць, а рэшта, якая з'яўлялася, так бы мовіць, „вяршком" яго папярэдняга развіцця, была асімілявана, убрана ў сябе польскай культурай і з гэтага часу фігуруе пад польскай этыкеткай, будучы на самай справе — беларускай" (пераклад мой, — Я.Т.) Праявай гэткага духоўнага збяднення беларускага народа аўтар лічыць амаль што поўнае знішчэнне кніжак на беларускай мове. Існаванне толькі літаратуры рукапіснай і ананімнай.

Публіцыст, разглядаючы гэты

# ЭМІГРАЦЫЯ НЕ ЗМОЖА ДАПАМАГЧЫ МНОГА

( Працяг са стар. 1 )

Ужо многія гады належу я да рэспубліканскай партыі і з'яўляюся кіраўніком беларуска-амерыканскай рэспубліканскай федэрацыі ў Амерыцы. У нас працуе дзевяць клубаў (раней было дванаццаць). Мы належым да галоўнай кватэры рэспубліканскай партыі ў Вашынгтоне. Я дзейнічаю ўжо пятнаццаць гадоў, маю добрую лучнасць з амерыканцамі. Большасць беларусаў, сказаўшы адкрыта, падтрымоўвае рэспубліканскую партыю — яна больш прыхільна да нашых праблемаў, і мы згаджаемся ў палітычных і эканамічных пытаннях. Нам часта прыходзіцца спатыкацца з амерыканскімі дэпутатамі і з іншымі вядомымі людзьмі. Часта сустракаўся я раней з Джорджам Бушам, калі ён быў сенатарам.

— *Ці беларусы ў Амерыцы займаюць высокія палітычныя або дзяржаўныя пасады?*

— Не. Нас, беларусаў, на высокіх пастах у палітыцы і ва ўрадзе, на жаль, няма. Калі гаварыць сур'ёзна і адкрыта, дык трэба сказаць, што наша эміграцыя малая і слабая. Старэйшая працоўная эміграцыя для нас прапала. Беларусы- каталікі запісаліся ў палякі, беларусы праваслаўныя сталі расейцамі. Беларускасць захоўвае толькі малодшая, пасляваенная палітычная эміграцыя. Высокіх пазіцыяў у амерыканскім грамадстве мы не маем, хаця некаторыя працуюць ва ўрадзе на ніжэйшых пастах, бо добра ведаюць палітычную сітуацыю Беларусі, гісторыю, беларускую мову. Беларусы народ спакойны і не так залазілі ў палітыку як іншыя: палякі, украінцы. Людзям майго пакалення цяжка ўвайсці ў палітыку — мы не роджаны тут, мы з Усходняй Еўропы і нам не давяраюць. Маім дзецям будзе лягчэй, бо яны народжаны ў Амерыцы і яны ўжо называюцца праўдзівымі амерыканцамі.

— *Адзін з нашых чытачоў пісаў нам, што Беларусі, якая зараз становіцца на шлях самастойнасці, патрэбны веды і вопыт суайчыннікаў з замежжа. У чым, на Вашу думку, магла б дапамагчы эміграцыя Бацькаўшчыне?*

— Эміграцыя дапамагчы Беларусі практычна зможа мала. Мы, новая эміграцыя, маленькія і слабыя. Сярод нас няма багачоў, банкіраў, але ёсць здольныя, высокакваліфікаваныя



*Васіль Мельяновіч.*

спецыялісты, якія ахвотны дапамагчы беларускаму ўраду. У нас ёсць маладыя вучоныя ў розных галінах, эксперты па камп'ютэрах, менеджэрству, эканоміцы, банкаўскай справе, якія маглі б быць кансультантамі ў розных галінах гаспадаркі. Наш абавязак — знайсці такіх людзей, якія маглі б прыехаць у Беларусь і падзяліцца сваімі ведамі і вопытам. Да гэтай пары з увагі на палітычную сітуацыю, многія беларусы з эміграцыі не кантактаваліся з Бацькаўшчынай. Зараз на Беларусі многае мяняецца. Калі эміграцыя пачне адчуваць, што Беларусь сапраўды становіцца беларускай дэмакратычнай дзяржавай, калі будзе можна свабодна прыехаць у Беларусь, не баючыся, што павесяць ярлык калабаранта з нацызмам, тады можна будзе спадзявацца на дапамогу.

— *Ці ў Вас былі ўжо асабістыя кантакты з Беларуссю?*

— Я ўжо тры разы быў на Беларусі. Упершыню прыехаў я ў Менск у 1988 годзе з тэхнічнай выстаўкай, якую арганізавала амерыканскае інфармацыйнае агенцтва. Працягвалася яна 31 дзень і быў я там адзіным беларускамоўным гідам. Кожны дзень выстаўку наведвала 9—10 тысяч чалавек і я праз гучнагаварыцель даваў інфармацыю на беларускай мове. У спатканнях з рознымі людзьмі я стаў іх сароміць за стан беларускасці, а вынік быў такі, што пазней напаў на мяне „Политический собеседник".

— *У Вас асабіста ёсць канкрэтныя прапановы дапамогі для Беларусі. Якія?*

— У сферы майго зацікаўлення знаходзяцца канкрэтныя эканамічныя праблемы. Я па адукацыі інжынер і менеджэр. На працягу васьмі гадоў выкладаў я на курсах па менеджэрству ва універсітэтах у Мэрылендзе і ў Балтыморы. Я зацікаўлены тым, што зараз дзеецца на Беларусі, і хацеў бы ў нечым дапамагчы. Магу быць кансультантам. Прапаную арганізаваць курсы на Беларусі, хаця б кароткія, па менеджэрству. Беларусь не мае валюты, каб пасылаць студэнтаў на Захад, а свае кадры рыхтаваць трэба. Чаму ж тады не пазваць 4—5 чалавек у Менск або іншы горад і арганізаваць курс для 200—400 чалавек. Я ахвотна прыехаў бы чытаць лекцыі па менеджэрству. Добра знаецца на эканоміцы спадар Мярляк, экспертам па камп'ютэрах з'яўляецца спадар Сільвановіч, ёсць вопытныя бізнесмены ў Кліўлендзе. Яны таксама не адмовіліся б прыняць удзел у курсах. У мяне ёсць малая друкарская фірма пад Вашынгтонам. Намерваюся арганізаваць супольны бізнес — стварыць паліграфічную суполку з прадпрымальнікамі з Беларусі.

**Размаўляў В. ЛУБА**

***************************************************************************

перыяд, выказвае думку, што беларускую культуру падтрымоўвала уніяцкае духавенства, „так як унія распаўсюджвалася амаль выключна сярод простага народа і з'яўлялася ў краіне як быццам нацыянальнай беларускай рэлігіяй". Не акцэптуе такога сцвярджэння Алег Лойка, які называе унію „гвалтам", што быў навязаны „частцы беларускага насельніцтва ў 1596 г. польскім каралём і Ватыканам".

Тое, што унія была ўведзена сілай — гэта праўда, але нам здаецца, што Багдановіч, пішучы аб ёй як аб сіле, якая падтрымоўвала беларускую культуру, меў на ўвазе перш за ўсё факт ужывання ва уніяцкай царкве беларускай мовы. Шырэй аб гэтым інфармуе публіцыст у артыкуле „На белорусские темы", дзе піша, што інструкцыя кансісторыі архідыецэзіі магілёўскай з 1794 г. заяўляла: „Postanowiono wszystkim w Archidjecezji plebanom zalecić, i zaleca się, aby ludowi, tym językiem, jaki on rozumie, po skończonym nabożeństwie z ambon po kościołach kazania miewali".

Багдановіч працягвае: „Так фактычна і было: беларуская мова ўжывалася і ў касцёлах, і ва уніяцкіх цэрквах; каталіцкі клір друкаваў па-беларуску рэлігійныя выданні" (...).

Трэці перыяд у гісторыі беларускай культуры пачынаецца з моманту далучэння Беларусі да Расіі. Аўтар лічыць, што спачатку гэтае далучэнне не зрабіла выразных перамен у жыцці беларускага краю, „(...) падгонка пад агульнарускі ранжыр выразна пачалася толькі з саракавых гадоў, калі адмянілі дзейнасць Літоўскага статуту, (...) забаранілі пропаведзь пабеларуску, быў забаронены (тайна) друк беларускіх кніжак, канфіскаваліся раней надрукаваныя і т. п." (пераклад мой, — Я.Т.).

І ў гэтым выпадку А. Лойка лічыць, што Багдановіч „цалкам не ўбачыў (...) вялікага значэння, якое мела для беларускага народа, для лёсу яго культуры і літаратуры ўз'яднанне з вялікім рускім народам, хоць і сказаў, што з гэтай пары „пачалася ў жыцці Беларусі новая глава". Нам, аднак, здаецца, што Багдановіч вельмі востра бачыў эфект гэтага ўз'яднання, а сцвярджэнне: „пачалася ў жыцці Беларусі новая глава" мае, несумненна, не такое значэнне, аб якім бы хацеў пісаць А. Лойка.

З арганізацыяй Віленскага універсітэта звязвае аўтар распаўсюджванне сярод пачаўшай выкрышталізоўвацца інтэлігенцыі радыкальных палітычных ідэй, рамантычнай літаратуры, якая ставіла высока народную казку, песню, легенду і якая наогул выяўляла шчырую сімпатыю да народа. Гэты рамантызм, як піша Багдановіч, палажыў пачатак этнаграфічнай літаратуры, насіўшай мясцовы, краёвы колер. Гэта пераважна своеасаблівая польская літаратура, у якой часта з'яўляецца апісанне Беларусі, беларускай прыроды, сялянства, шляхты і якой не чужыя творы беларускай народнай творчасці. Але ўсіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры ён называе „любіцелямі беларускай славеснасці", бо фактычна ў беларускай літаратуры „не было ні чытачоў, ні пісьменнікаў". Аўтар да іх адносіць Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які „ўзбуджаў навокал сваіх твораў размовы і палемікі, нагадваў аб існаванні беларускай мовы і зародкаў беларускай літаратуры, наводзіў на пытанне аб магчымасці іх далейшага развіцця" (пераклад мой, — Я.Т.). Дзякуючы гэтаму, на думку аўтара, В. Дунін-Марцінкевіч стаў „цэнтральнай асобай беларускага пісьменніцкага гуртка", у складзе якога былі Уладзіслаў Сыракомля, Ялегі Францішк Вуль, М. Караткевіч, Юльян Ляскоўскі, Якуб Т-кі. Дзякуючы ім, заўважае публіцыст, „беларускае пісьменства значна пасунулася наперад".

*(Працяг будзе)*

**ЯНІНА ТРАЧУК**




( Працяг са стар. 4 )

якая ж то твая ўлада, якое тваё гасударства? Гэта ж усё польскае!" „Але-е-е!" — адазваліся галасы. Паўлюсь сказаў: „Васька, бяры голас і дуй!"

Я падыйшоў да стала і, водзячы па прысутных марсавым поглядам, таксама крыкнуў: „Прызнайцеся, хто з вас хоча вайны?!" — і ваджу вачыма па зале. Адны пабялелі чамусь, а другія чамусь пачырванелі. Хто іх зразумее? Але ўсе далей маўчаць. Давай я тады на сваёй гаворцы: „Вы думаетэ, шчо імпэрыялізм амэрыканскі спыт і нычого нэ робыт, коб довэсты до третеі світовоі вуйны?! Побачтэ, ужэ на Былосточчыні штыры рокі тому, як настала наша роботнычо-хлопська власьць, а банды шчэ ходят! Чого воны ходят? Воны поховаліся в лес і ждут, колі то до нас прыдут амэрыканці. Тогды выдут з леса і всех вас як нэ выб'ют, то поробят парубкамы, рабамы. Наша народная власьць дала ўсым можлівосьць учытысь, працёваты, дэ оно хто хочэ... Побачтэ на мэнэ. Я ж пэрэд вуйною аны разу нэ був у школі, а тэпэр кончыў пуўофіцэрку і стаў капралём. Хто з вас, служывшых у войську пэрэд вуйною, добывся капраля, га?"

У зале стала ціха. „А калі так, дык, значыць, будуць пытанні", — падумаў я на вайсковы манер і крыкнуў: „Пытаня будут?!" Чырвоныя пабялелі, а белыя пачырванелі і не задаюць аніякіх пытанняў. Тады я да Паўлюська: „Дядьку Павол, трэба зробыты лісту і нэхай кажны пудходыт, будэм пысаты." Але Паўлюсёк пры сабе не меў ніякай паперы, бо і адкуль яна ў яго, і запрапанаваў: „Нехай падымуць рукі хто ўступае ў калхоз, а ўзаўтра спышэмо..."

У той момант устаў з месца Адамішын Хведар і кажа: „Браткі, я нэ знаю, як ветэ, але я, як почув Ваську і подывывся на ёго, шчо з ёго выросло, то ныхай будэ шчо хочэ, але я пэршы пышусь в колхоз і обіцяю, шчо буду працёваты в ём з целого сэрца!"

Хведар сеў, а ўстаў Паўлюсёк і, павёўшы па зале вачыма, сказаў: „Ну, хлопці, пэршого охвотныка маемо, хто будэ другі?" Але хлопцы як сядзелі, так сядзяць. „То шчо, больш ныкого дзісь нэ будэ?" — запытаў зноў Паўлюсёк. Хтосьці крыкнуў: „Павол, на дзісь хватыт, бо трэба ж іты на обед, а ўзаўтра побачым."

Павал устаў з-за стала і сказаў: „О, ужэ зголодэў? Ідытэ к чортовуй матэры на обед, бо шчэ поздыхаетэ з голоду." Народ высыпаўся, нібы з мяшка, і чым хутчэй падаўся дамоў. Паўлюсёк кажа: „Бачыш кулаччо, аны одын кроме Хвэдора нэ запысався". „ А чом воны так бояцца того колхозу?" — запытаў я ў яго. „А халера іх ведае. Але я думаю, шчо мы кепсько агітовалі, — сумна канстатаваў солтыс, — тобе мова ішла добрэ, але трэба було яе пудпэрты, выложывшы на стол

( Працяг на стар. 7 )

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

**26. У ВАШЫНГТОНЕ.**

Раечка Станкевіч на гэты раз праспала. Раечка, якая ніколі нікуды не спазняецца, хаця абыходзіцца раніцай без будзільніка, і на гэты раз разлічвала на свой беспамылковы ўнутраны гадзіннік біёлага, а ён падвёў. Рая была ўжо, відаць, даволі стомлена ўсімі падзеямі апошняга часу і апекай над госцьмі з Усходу. У выніку ледзь не спазнілася са сваім „экіпажам" на вакзал, адкуль мы мелі ехаць цягнікам у Вашынгтон на арганізаваную ёю ж і Данчыкам экскурсію.

А наш „экіпаж", што начаваў у сп. Андрусішыных (Данчык, Валя Якімовіч з Русланам і я), разбуджаны Юляй вельмі рана, схапіў таксі і быў на вакзале амаль за гадзіну да ад'езду „нашага" цягніка. З непакоем спаглядалі мы ў бок уваходу. Данчык ужо быў амаль зрэзыгнаваў з паездкі, калі ўбачылі мы бягучую Раю, а за ёю Алінку Мяснікову і Валянціна Стэха.



*Каля Белага Дома.*

Вашынгтон, сталіца Злучаных Штатаў Амерыкі, у параўнанні з Нью-Йоркам, уражвае цішынёй і спакоем. Не было тут такога імклівага руху на вуліцах горада і не было такіх „коркаў", як у надакіянскай метраполіі. Машыны не імчаліся тут як ашалелыя, а пасоўваліся наперад неяк маестатычна і з павагай, быццам разумеючы, што сталіца ўсё ж такі тут!



*Адзін з уваходаў у Белы Дом.*

Архітэктура горада вельмі адрознівалася ад архітэктуры Нью-Йорка. Чытач у гэтым месцы, напэўна, вельмі здзівіцца, калі скажу, што Вашынгтон напомніў мне ў нечым Менск. Не было тут ніякіх небаскробаў. Дамы былі не надта высокія. Да гэтага — прасторна, шмат зелені і... чыста. Толькі маленькія шэрыя вавёрачкі, з якімі ўпершыню я сутыкнулася на Верынай верандзе ў Нью-Йорку, мітусіліся ўсюды без меры. А найбольш, бадай, у парку ля Белага Дома, да якога з вакзала было як рукой падаць.

Ад Белага Дома, рэзідэнцыі прэзідэнта ЗША, мы і пачалі сваю экскурсію. Быў гэта, як і іншыя, невысокі, але разлеглы будынак. Уваходзілі мы ў яго недзе збоку, ці, лепш сказаць, ззаду. Але трэба было яшчэ выстаяць у чарзе, бо ад вуліцы чакаў даўжэзны шнур людзей. У Белым Доме прасвятлілі, як і ў амерыканскім пасольстве ў Варшаве, нашы сумачкі — далей можна было хадзіць і аглядаць.



*Вашынгтон у нейкай ступені напамінае Менск.*

Перад намі мільгалі залы нязвыклага харастава. Кожная з іх была іншага колеру і да найменшай дробязі ўсё было падабрана ў гэтай жа танацыі. Асабліва ачаравалі мяне жоўтая і салатавая залы. Усё — пачынаючы ад мэблі і сцен і канчаючы на фіранках і кветках — было тут жоўтае ці салатавае самых розных адценняў. Экскурсавод расказваў, каго і ў якіх залах прымалі амерыканскія прэзідэнты і прымае сёння прэзідэнт Джордж Буш.

Выходзілі з Белага Дома намнога больш парадным уваходам.

Нашы апекуны купілі білеты на экскурсію па горадзе спецыяльным турыстычным аўтобусам. Але быў яшчэ час, дык павялі нас на абед у вакзальны рэстаран. Што за вакзал, якая махіна! Колькі тут розных турыстычных бюро, магазінаў! А самаабслугоўваючы рэстаран унізе такі ж вялізны. Імпануе ён, аднак, не толькі размерамі, але і колькасцю

************************************************************************************

# XXI. ЗАЛАТАВУСТ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

## Святыя нашы карані радзімы

У той час, калі ў Полацку ладзіла пабудову цэркваў і іх упрыгожанне, вучыла дзяцей грамаце, перапісвала богаслужэбныя кнігі, складала летапіс мінулых і сучасных ёй гадоў апякунка Зямлі Беларускай, Ефрасіння Полацкая (1110-1173), жыў і дзейнічаў на поўдні Беларусі святы Кірыла Тураўскі.

„Блажэнны Кірыла народжаны і выхаваны ў горадзе Тураве, — паведамляецца ў яго жыцці, — сын багатых бацькоў, але не любіў багацця і славы тленнае свету гэтага. Болей за ўсё прыкладваўся да навукі з набожных кнігаў і глыбока спазнаў Божае слова..." Нарадзіўся Кірыла каля 1130 года, бацькі паклапаціліся пра грунтоўную адукацыю сына. Вучыўся ён у замежных настаўнікаў, якія прыбывалі на тураўскі замак з суседняга Кіева і з далёкага Канстанцінопаля. Ахвочы да навукі хлопец заглыбляўся ў чытанне кніг, добра авалодаў стараславянскай, грэцкай і некалькімі іншымі замежнымі мовамі, а з гадамі ўсё болей пранікаўся вывучэннем Свяшчэннага Пісання, твораў айцоў Царквы, старажытных і сучасных яму свецкіх пісьменнікаў. Ужо ў юнацтве стаў ён слаўны сваёй набожнасцю і разважлівасцю. Затым Кірыла пастрыгся ў манахі, жыў у адзіноцтве вельмі сціпла і пачціва, увесь час прысвячаючы малітве і паглыбленню сваіх ведаў. На нейкі час замураваўся ў стаўпе, каб з большаю руплівасцю весці аскетычнае жыццё. Пачаў пісаць рэлігійныя творы і звяртацца да наведваючых яго з пропаведзямі. Да тураўскага падзвіжніка пачало сцякацца мноства народу, каб пачуць ад яго настаўленне ў жыцці, павучэнне, пачуць голас жывота „залатавуснага Кірылы", як называлі яго сучаснікі.

Кірыла Тураўскі быў таленавітым пісьменнікам і красамоўным прапаведнікам. З багатай творчай спадчыны яго захаваліся тры аповесці-прытчы „Прытча пра душу і цела", „Аповесць пра беларызца і манаства", „Казанне пра чарнарыскі чын"; восем словаў-пропаведзяў на царкоўныя святы і нядзелі ад Вялікадня да Пяцідзесятніцы, сярод іх найболей вядомыя „Слова на Вербніцу", „Слова на Ушэсце" і іншыя; два каноны і каля 30 малітваў. У сваіх творах Кірыла Тураўскі заклікаў людзей кіравацца ў жыцці Запаведзямі Гасподнімі і быць устрымаьнымі і прыстойнымі ў паводзінах, шанаваць іншых. Ён славіў працавітасць і разважлівасць. „Вядома, што салодкія мядовыя соты і смакавіты цукар, але за адно і другое лепшая адукацыя — бо гэта ёсць скарбніца вечнага жыцця", — такімі словамі заахвочваў ён людзей да вучобы, да ўдумлівага спазнавання Свяшчэннага Пісання.

Каля 1169 года Кірыла быў рукапалажаны ў епіскапа і ўзначаліў вялікую Тураўскую епархію, да якой тады належалі таксама праваслаўныя прыходы цяперашняй Беласточчыны. Ён выдатна пасадзейнічаў умацаванню Царквы і ўзвышэнню яе ролі ў грамадстве.

„Добра ж, браты, і вельмі карысна нам разумець сэнс Святога Пісання, — заўважаў Кірыла ў „Прытчы пра душу і цела", — гэта і душу ўчыняе нявіннай і да пакорлівасці схіляе розум, і сэрца нацэльвае на дабрачыннасць, і самога чалавека робіць высакародным, і на неба да Божых запаведзяў думку накіроўвае, і да духовых высілкаў цела ўмацоўвае, і пагардай да гэтага зямнога жыцця і багацця натхняе і ўсе жыццёвыя смуткі адхіляе. Таму і прашу вас: старайцеся ўважліва чытаць свяшчэнныя кнігі, каб Божым насыціўшыся словам, вечнага жыцця невыказнага шчасця дасягнуць".

Нам варта ведаць, што беларускія



*На могілках Арлінгтон, каля магілы Джона Кенедзі.*

страў, якія там сервуюць. Кожны выбраў нешта сабе. Я, памятаю, разгубілася ва ўсёй гэтай стракацізне, нарэшце выбрала смажаныя крэветкі. Данчык, на маё здзіўленне, узяў свой любімы гамбургер.

Падсілкаваўшыся, паехалі аглядаць горад, заснаваны, паводле нашых крытэрыяў, зусім нядаўна — у 1791 годзе — у штаце Віргінія. У 1800 годзе тут ужо знаходзіліся ўрадавыя ўстановы, а толькі ў 1802 годзе Вашынгтон атрымаў статус горада. Паколькі зямлю гэту лічылі святой, у Вашынгтоне збудавана аж 800 цэркваў.

Усё тут нейкае новенькае, прыгожае, нідзе не відаць сламсаў. Праязджаем каля пасольстваў Вялікабрытаніі, СССР, Бразіліі — у Вашынгтоне іх наогул 157, — каля Батанічнага сада, Музея Смітсана, славутых з колішніх подслухаў урадавых гатэляў „Уотэргейт".

Наведалі Капітолій, сядзібу амерыканскага Кангрэсу, Мемарыял Лінкольна і паглядзелі помнік ахвярам В'етнама. Здалёк бялеў помнік Вашынгтона, так званы „аловак", вышэй якога ў Вашынгтоне дамоў не будуюць.

Тады паехалі на вайсковыя могілкі Арлінгтон. Гэта, як здаецца амерыканцам, старыя могілкі, бо ёсць тут яшчэ магілы з часоў грамадзянскай вайны. Рэдка на якой магіле ёсць нейкі помнік. Амерыканцы наогул на магілах помнікаў не ставяць. Толькі нейкая плітка або слупок, стрыжаная трава. Вылучаецца помнік загінуўшым касманаўтам, збудаваны з рэштак касмічнага карабля.

Скромна выглядае абшырная магіла застрэленага прэзідэнта Джона Кенедзі. Магіла яго брата, сенатара Роберта Кенедзі, які быў кандыдатам на прэзідэнта і таксама быў застрэлены тэрарыстам, выглядае больш багата. Пры ім мае быць пахавана калісьці яго жонка. Каля Джона Кенедзі пахаваны яго дачка і сын, жонка, аднак, не можа быць пахавана побач з ім, паколькі яна пасля яго смерці выйшла другі раз замуж.

Ходзім яшчэ даўгавата па ўтульных, чысценькіх, амаль бяздрэўных і бяспомнікавых шматгектаровых могілках, як жа іншых, чым у нас. Усё цікава, ды час ляціць. Тым жа адкрытым аўтобусікам, на якім мы прыехалі ад уваходу на могілкі ў іх цэнтр, вяртаемся да свайго турыстычнага аўтобуса. На вакзал едзем па галоўнай вуліцы Вашынгтона — Пенсільванія-авеню. Экскурсавод яшчэ нешта паказвае і растлумачвае. Здаецца, хацеў бы, каб усё тое, што мы ў гэты дзень убачылі, захавалася ў нашай памяці назаўсёды.

Але ж ці спамятаеш?..

*(Працяг будзе)*

**АДА ЧАЧУГА**

**Фота Раі Станкевіч і аўтаркі**



*Помнік амерыканскім салдатам, што загінулі ў В'етнаме.*



*Каля ўваходу ў Капітолій можна сустрэць не толькі экскурсанта, але і сенатара.*




**( Працяг са стар. 5 )**

пыстолет. Знаеш, нашы людэ, як нэ чуют над собою быча, то ныкого нэ бояцца. А як зобачылі б, шчо пыстолет звэрнуты в іх бок, то так пысалися б, шчо одын на другого лез бы..."

— Э, дядьку Павол, так мне нэ можна, бо за тое карают...

— То мать іх туды, колі такіх як ты карают за тое, шчо хочут державе добра. То ныхай прыїжджают і самы закладают тыі колхозы. Як ты з пыстолетом оно одного пудмовыв, то шчо я могу зробыты бэз пыстолета?

Падалі мы адзін другому рукі і разышліся без чаркі. Але, за кару, Грабавец па сённяшні дзень астаецца без калгаса. Добра ім так!

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**




**Дарагая „Ніва"!**

Ты і твае чытачы знаёмыя са мною па некаторых публікацыях ад 1989 году, напрыклад, такіх, як „19 лютага, стадыён „Дынама" аб мітынгу БНФ у Менску ў 1989 годзе. Праз цябе я набыў сяброў у Польшчы, вёў з імі перапіску. Далей мой лёс склаўся так, што я і мая сям'я ў тым жа годзе вымушаны былі эміграваць у Заходнюю Нямеччыну. Цяпер мы зноўку адбудоўваем сваё жыццё, сумуем па Бацькаўшчыне, спадзяемся і верым у ейную будучыню. Мы просім змясціць на тваіх старонках гэты ліст з маім адрасам, што дало б магчымасць мне аднавіць страчаныя сувязі з былымі знаёмымі і сябрукамі.

**Анатоль Казлоў**

Мой адрас:
Anatoly Koslov
Bruckenstrasse 3
7321 Birenbach
Deutschland

## ПІЛСУДСКІ — БЕЛАРУС?

Дакумент, які пацвярджае, што Юзэф Пілсудскі быў... беларусам, знойдзены ў Галоўным архіўным упраўленні Беларусі. З'яўляецца ім пратакол допыту дзевятнаццацігадовага Пілсудскага ад 10 сакавіка 1887 г. (гутарка тут, праўдападобна, пра допыты ў працэсе за ўдзел у падрыхтоўцы замаху на жыццё цара Аляксандра III — ПАП). У размове з палкоўнікам Стрававым малады Пілсудскі сказаў, што называецца ён Восіп Восіпавіч і што ён шляхціц і беларус.

Начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў Беларусі Аляксандр Міхальчанка прызнаў гэту вестку сенсацыяй, якая кідае новае святло на дзейнасць Пілсудскага і яго палітыку ў адносінах да Савецкай Расіі.

************************************************************************

друкары Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец упершыню выдалі друкам „Слова на Ушэсце" Кірылы Тураўскага, змясціўшы яго ў „Евангеллі вучыцельным", якое яны выдалі ў 1569 годзе ў Заблудаве каля Беластока. Гэтая першая надрукаваная на Беласточчыне кніга потым многа разоў перавыдавалася.

Адышоў Кірыла Тураўскі з гэтага свету каля 1188 года. Яго падзвіжніцкае жыццё, ахвярная царкоўная дзейнасць і натхнёная творчасць моцна ўздзейнічалі на далейшае ўмацаванне хрысціянскага жыцця, развіццё культуры і літаратуры на беларускіх землях.

Праваслаўная Царква кананізавала св. Кірылу Тураўскага і памяць яго ўшаноўваем 28 красавіка (11 мая па новаму стылю).

**МІКОЛА ГАЙДУК**



## ТРЫ АРТЫКУЛЫ ПРА БЕЛАРУСАЎ

У апошні час даволі многа пішацца аб беларусах і Беларусі. Вось хачу адзначыць тры чарговыя артыкулы. Два першыя змешчаны ў н-ры 1/1991 г. „Kameny. Kwartalnika Kresowego", які выходзіць у Холме, трэці — у н-ры 1/1991 г. Przeglądu Kresowego".

— Хто такія беларусы? — адказ на гэтае пытанне стараецца знайсці Рышард Радзік. Пачынае ён з кароткага разгляду прычын і ўмоў знаходжання беларускіх масаў на ўзроўні этнічнай свядомасці, у чым ён і бачыць лёгкасць, з якой беларусы паддаюцца асіміляцыі. Паводле яго сучасная беларуская грамадскасць гэта: „... bliska zbiorowości etnicznej nie tyle ze względu na odbieranie siebie przez pryzmat wspólnot lokalnych, ile poprzez brak nadania cechom etnicznym charakteru narodowego, a więc tkwienia w swej białoruskości na poziomie kultury folklorystycznej". Далей аўтар разглядае абумоўленасці сучаснага нацыянальнага жыцця Беларусі і на гэтай падставе падае надзеі на будучыню. Са смуткам сцвярджае: „Obecnie białoruszczyzna wciąż traktowana jest przez społeczeństwo jako język chłopski, a emigrujący do miasta kołchoźnik wstydzi się swojej mowy i stara się jak najszybciej przejść na rosyjski. Literackiej białoruszczyzny najczęściej nie uważa w pełni za swój język ojczysty. Różni się ona z reguły znacznie od dialektu, jakim się posługuje na co dzień..." У заканчэнні артыкула Р. Радзік дзеліцца боязззю, што развіццё нацыянальных працэсаў у беларускім насельніцтве бадай давядзе да росту напружання паміж рознымі нацыянальнымі групамі, якія насяляюць рэспубліку. Усё-такі трэба разумець неабходнасць ходу рускамоўнай большасці за беларускамоўнай меншасцю.

Нарыс пра Францыска Скарыну дае беларускі гісторык літаратуры, ураджэнец Бандароў на Беласточчыне, Уладзімір Казбярук. Пераклад з беларускай мовы зрабіў Мечыслаў Бучынскі.

Варта прачытаць і разважанні Яўгена Міранoвіча пра атаясамліванне беларуса з камуністам. Я. Міраповіч надта трапна паказвае пасляваенную рэчаіснасць на Беласточчыне і знаходжанне ў ёй беларускага насельніцтва.

**П. БАЙКО**

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

## ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ

7. **Спрадвечная лексіка беларускай мовы. — Працяг.**

**Усходнеславянскія словы.**

Пасля распаду ў VI-VII ст.ст. н.э. праславянскай мовы на шэраг дыялектаў распачалося фарміраванне ўсходнеславянскай мовы — агульнай мовы для ўсходніх славян — жыхароў старажытнай дзяржавы з цэтрам у Кіеве. Усходнеславянская мова (агульнаўсходнеславянская, старажытнаруская) сфарміравалася ўжо ў VIII—IX ст.ст.

Да перыяду VI—XIV ст.ст. адносяцца назвы:1

— роднасці і сваяцтва: *бацька, падчарыца, пляменнік,*
— асоб паводле іх дзейнасці, асаблівасцяў характару: *мельнік; балагур, весялун,*
— частак цела чалавека і жывёлы: *маршчына, туша, морда, клык,*
— жывёл, птушак, насякомых: *сабака, жаваранак, мошка,*
— раслін: *грэчка, малачай, хвошч.*
— сельскагаспадарчых паняццяў: *азіміна, сенажаць, ураджай,*
— частак гаспадарчых пабудоў: *латок, полка,*
— прасторавых паняццяў: *закавулак, прагаліна, раздолле,*
— прадметаў працы: *аброць, аглобля, каромысел,*
— прадметаў быту (адзенне, посуд): *касынка, сарочка; карзіна, лыжка, самавар,*
— абстрактных паняццяў: *давер, журба, пацеха,*
— колераў, якасцей: *карычневы, рабы; ветлівы, едкі, удалы,*
— дзеянняў і працэсаў: *балаваць, калыхаць, журчаць,*
— лікаў: *адзінаццаць, сорак, дзевяноста.*

**Уласнабеларускія словы.**

У сярэдзіне XII ст. Кіеўская Русь распалася на асобныя феадальныя княствы, што прыводзіла таксама да распаду агульнаславянскай мовы і сфарміравання на працягу XIII-XIV ст.ст. трох моў: беларускай, украінскай і рускай (расійскай).

Сярод уласнабеларускіх слоў знаходзяцца назвы:2

— асоб паводле іх дзейнасці, асаблівасцяў характару: *араты, сейбіт; асілак,*
— міфічных істот: *вадзянік, нячысцік,*
— раслін: *алешнік, багноўка, бусельнік, вятроўнік,*
— атмасферных з'яў: *вясёлка, золак, світанне, спёка,*
— пабудоў і іх частак: *вазоўня, вушак, падпаветак,*
— прадметаў быту: *вопратка, спадніца,*
— страў: *дранікі, зацірка,*
— часовых паняццяў: *адвячорак, раніца, сакавік, красавік,*
— прасторавых паняццяў: *аселіца, выжарына, сяліба,*
— паняццяў колькасці і меры: *абярэмак, ахапак,*
— абстрактных паняццяў: *жаданне, здань, летуценне,*
— якасцей, прымет: *апошні, бадзёры, буйны, гаротны, дрэнны,*
— дзеянняў і працэсаў: *гаманіць, кратаць, сачыць,*
— навуковыя і тэхнічныя тэрміны: *выказнік, дзейнік, прымаўка.*

Большасць уласнабеларускіх слоў — гэта вытворныя словы, якія ўзніклі на базе раней існуючых слоў (індаеўрапейскіх, праславянскіх, агульнаўсходнеславянскіх) і слоў, уласцівых народным гаворкам, на аснове якіх адбылося далейшае фарміраванне беларускай мовы.

Часта бывае так, што адно слова, замацоўваючыся ў мове, выцясняе другое слова, якое раней выступала для акрэслення нейкага прадмета ці паняцця. „Так, словы *бачыць* і *будаваць* пачалі выкарыстоўвацца ў беларускай мове з XIV ст. і паступова выцеснілі адпаведна агульнаславянскія словы *видети* і *строити*. Словы *сакавік* і *сход*, што з'явіліся ў XIX — пачатку XX ст., хутка пашырыліся ў мове замест лексічных адзінак *март* (генетычна звязанага са старaславянізмам *марьтъ*, якое ўзыходзіць да грэчаскага *martios*, *марац* (параўн. польск. *marzec*) і *сабранне* (параўн. рус. *собрание*); словы-тэрміны *дзейнік* і *дзеяслоў*, утвораныя ў савецкі час, замянілі адпаведна тэрмін *подлежащее* (калька з лац. *subjectum*) і тэрміны *глагол* (калька з грэч. *vema*), *часоўнік* (параўн. польск. *czasownik*)."3

---

1. На падставе: В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 45.

2. На падставе: В.П. Красней, ..., с. 46-47.

3. Там жа, с. 47.

# ТРЭЦЯЕ ПАКАЛЕННЕ

Ад пару дзесяткаў гадоў у Гданьску жыве вялікая грамада беларусаў. Апынуліся яны там з розных прычын: адны з іх выехалі з Беласточчыны ў пошуках працы, іншыя ж ехалі туды вучыцца, а пазней ужо ішлі на працу, звязваючы такім чынам свой лёс з пабярэжжам. Аказалася іх там сапраўды нямала, бо ж заснавалі свой аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства, сядзіба якога знаходзіцца ў самай прыгожай старой частцы Гданьска, на вуліцы Доўгі Тарг. Гданьскія беларусы, жывучы ва ўмовах эміграцыі, у наўсцяж польскім асяроддзі, не парываюць лучнасці са сваёй культурнай спадчынай — сваіх дзяцей навучаюць роднай мове.

— Думка аб навучанні роднай мовы, — расказвала мне Анна Іванюк, — узнікла гадоў дзесяць-дванаццаць таму. Раней патрэбы такой не было — калі дваццаць гадоў таму мы сюды прыехалі, то ўсе мы беларускую мову выдатна ведалі: з дому, са школы. Але прыйшло новае пакаленне беларусаў, якія ўжо нарадзіліся ў Гданьску — тады менавіта і пачалося навучанне беларускай мовы. У арганізацыі навучання дапамог нам спадар Няклюдаў — сын святара са Старога Корніна. Хаця сам сябе лічыць расейцам, то ўсё-такі вельмі цэніць беларускі народ і выдатна ведае беларускую мову. Ён жа і ўзначаліў урокі беларускай мовы. Першымі навучэнцамі былі маладыя людзі, некаторыя з якіх вучыліся тады ўжо ў ліцэях. Навучанне беларускай мовы выглядала тады так, што развучвалі мы нашы песні ды чыталі кніжкі. Гэтак яно цягнулася год-два. Пасля быў вельмі доўгі перапынак і недзе гады чатыры таму стварылі мы групу дзяцей, якую навучаем беларускай мове; група налічвала 11-13 дзяцей і на такім узроўні ўтрымліваецца дагэтуль. Апрача навучання беларускай мовы — граматыкі і літаратуры — навучаем таксама гісторыі, вядуцца ўрокі беларускай песні і танца. Зразумела, — удакладніла Анна Іванюк, — не адна я ўсім гэтым займаюся. Я навучаю толькі беларускай мове і гісторыі. План навучання ўкладаю паводле дзвюх кніжак — граматыка беларускай мовы аўтарства спадарства Гайдукоў, ды „Кароткі агляд гісторыі Беларусі" для беларускіх дапаўняльных школаў. Маю таксама падручнікі з Беларусі, але яны нейк мне недаспадобы, яны зусім недастасаваныя да нашых умоваў. З вучнямі сустракаюся кожнае пятніцы праз увесь навучальны год — у канцы года вучні атрымліваюць атэстаты, найчасцей вельмі добрыя, бо ўсе яны прыкладаюцца да навукі ды актыўна ўдзельнічаюць ва ўроках. Варта таксама згадаць і пра тое, што апрача навучання беларускай мовы і гісторыі маем тут і драматычны гурток — вучні ставяць свае п'есы ды прымаюць удзел у конкурсах. Прыкладна, у мінулым годзе на аглядзе дзіцячых тэатраў у Гайнаўцы першыя тры месцы занялі нашы вучні — найлепшы тэатральны калектыў і найлепшыя акцёры. Хаця б і гэты прыклад паказвае, што можна навучаць беларускую мову нават там, дзе на першы погляд няма дзеля гэтага ўмоваў, ды ў навучанні гэтым дайсці да выдатных вынікаў. Вядома, — сказала на заканчэнне Анна Іванюк, — не толькі мая ў гэтым заслуга, але і ўсіх іншых, заангажаваных у гэту справу гданьчан.


*Анна Іванюк са сваімі вучнямі.*

Спадарыня Анна Іванюк, якая навучае ў Гданьску беларускую мову, прыехала туды ў шасцідзесятых гадах. Пасля беларускага ліцэя ў Гайнаўцы Анна Іванюк распачала навуку ў сярэдняй медычнай школе ў Гданьску. Тады яшчэ не думала, што лёс яе звяжа з Гданьскам, але, як сама кажа, існаваў тады мус працаваць там, дзе ты закончыў школу. Праца пасля медычнай школы не вельмі яе цікавіла, дык паступіла ў сярэднюю педагагічную школу, а пазней закончыла гісторыю ў Гданьскім універсітэце. Семнаццаць гадоў праце выкладчыцай у сярэдняй школе ў Гданьску. Ужо чатыры гады вучыць роднай мове дзяцей гданьскіх беларусаў — самае маладое пакаленне беларускіх асаднікаў на пабярэжжы.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**



**********************************************

### У ЦІСОЎЦЫ

У пятніцу, 25 кастрычніка разам з мамай вазілі мы шкуры на кажух. Кравец жыве мо з паўкіламетра за Цісоўкай. Гэта невялікая вёска. Гаспадароў мала. Шмат пенсіянераў. Ціха тут. Рэдка хто праедзе веласіпедам ці матацыклам.

Крамы няма. Пустуе будынак па ліквідаваным клубе. За пакупкамі трэба ехаць у Шымкі.

На сцяне адной хаты прыбіта паштовая скрынка. Не відаць дзяцей на вуліцы і панадворках. Старэе вёска. Няма ніводнага мураванага дома.

У ста метрах за Цісоўкай відаць бетонныя слупы.

— Тут хтось жыў? — пытаю маму.

— Гаварылі мне, што жыло тут старэйшае сужонства. Гаспадар захварэў на рак і памёр. Жонка пайшла да дачкі ў горад, а тая забрала з Цісоўкі будынкі.

Вось як! Каб будынкі былі зусім драўляныя, то і следу па іх не было б. Хто там ведаў бы, ці тут калісь хтось жыў?

Так і ліквідуецца вёска. Маладыя раз'язджаюцца па свеце, а старыя дажываюць свой век.

Маладым тут жыць нецікава. Да цягніка каля двух кіламетраў, да аўтобуса яшчэ далей. За найменшай спраўкай трэба ехаць у Шымкі. Можна сказаць, вёска — забытая Богам.

На пачатку лесу стаіць каталіцкі крыж. Паставіў яго гаёвы з Залешан як памятку па сабе, бо працаваў тут многа гадоў.

У гэты дзень тут ляжала мо з сантыметр снегу. У чацвер ішоў снег і ў нас, у Семяноўцы, але хутка стаяў. А тут не. Дзіва! Мо тут халадней таму, што больш старых людзей, як у нас?

АЎРОРА

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Анютка з мішкамі. *Фота М. Вауранюка.*

## Для самых маленькіх

Марыйка Падгаранка

### ЮРАСЬ І КОЗАНЬКА

Бяжыць белая козанька,
Шоўкавая барозанька,
Роўненькія ножкі,
Тоненькія рожкі.

Бяжыць козачка: туп, туп.
А хлопчык Юрась — тут, тут.
— Як мяне ён папасе,
Капюшынкі прынясе,
Дам тады я малака
Для малога хлапчука.

### КУ-КУ, КУ-КУ!

Край лесу на світанні,
На маладым дубку
Чуваць зязюлі ўранні:
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

Бяжыць ручай здалёку
Па жоўтаму пяску.
Чуваць усім звысоку:
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

Чырвоныя сунічкі
Збіраем у ляску,
Чуваць да самай ночы:
Ку-ку, ку-ку, ку-ку!

**Пераклаў з украінскай Валеры Бабей.**

****************************************

# ПІШУЦЬ ВУЧНІ

**Добры дзень, паважаныя сябры!**

Гэта пішуць вам вучні з Гродзенскай вобласці з горада Скідзеля, школы н-р 3, VI„а" клас.

Мы ўважліва чытаем нашу газету „Зорька", і аднойчы ў н-ры 31 за верасень мы знайшлі здымак вучняў школы н-р 3 з горада Бельска-Падляшскага і хочам перапісвацца з вучнямі шостага класа гэтай школы.

Мы вельмі рады, што вы вывучаеце беларускую мову — родную мову ўсіх беларусаў.

У нашай школе ёсць гурток польскай мовы і многа іншых. У нашым VI „а" займаецца 26 вучняў, вучымся добра. Вывучаем такія прадметы як: беларуская мова і літаратура, гісторыя, замежная мова, руская мова, біялогія, матэматыка і многа іншых.

Часта ездзім на экскурсіі ў Брэст, Гродна, Ваўкавыск. Любім музыку, многія нашы дзяўчынкі яшчэ займаюцца ў музыкальнай школе. Многія з нас збіраюць маркі, значкі; любяць спорт.

Нашу класную кіраўнічку завуць Драгун Яўгенія Уладзіміраўна. У нас добрыя настаўнікі і вучні.

Да пабачэння.

Пішыце нам па адрасу:

231761 Беларусь, Гродзенская вобласць, г. Скідзель, СШ н-р 3, VI „а" клас.

# ДАПЫТЛІВЫ МІШКА



Мядзведзі выйшлі на лясную прасеку і спыніліся. На прасецы стаяла легкавая машына. Людзей каля яе не было: мабыць, збіралі суніцы.

Стары мядзведзь абышоў машыну. Ззаду, на шкле, убачыў каляровы малюнак і здзівіўся:

— Глядзі ты, мядзведзя намалявалі! На цябе, Мішка, падобны.

Маленькі мядзведзь падышоў бліжэй: сапраўды, выліты ён, Мішка.

— А што там напісана ўнізе? — пацікавіўся стары мядзведзь. — Прачытай, унучак, я забыў акуляры ў бярлозе.

— Масква, а-лім-пій-скі-я гуль-ні, — прачытаў Мішка.

— Выходзіць, праўду сарока казала. З усяго свету з'едуцца людзі ў Маскву, на спартыўныя гульні.

— Гульні — гэта ж цікава! — узрадаваўся Мішка. — Не разумею толькі: чаму мяне намалявалі?

— Напэўна таму, што мы, мядзведзі, дужыя, — падумаўшы, сказаў стары мядзведзь.

— Дужыя, — пацвердзіў Мішка. — І я дужы. Памятаеш, якое бервяно прыцягнуў, калі бярлогу рамантавалі? Тоўстае, цяжкае!

— Спрытныя, — працягваў стары мядзведзь.

— Спрытныя, — паўтарыў Мішка. — І я спрытны! Рыбы захочацца — у рэчцы лапамі налаўлю.

— Смелыя...

— Смелыя, — падхапіў Мішка. — І я смелы! Нікога ў лесе не баюся!

— Гасцінныя... — Стары мядзведзь глянуў на легкавушку. — Добрым людзям заўсёды рады. Няхай спакойна ягадамі ласуюцца, грыбы збіраюць, птушак слухаюць.

— Не шкада, няхай і начуюць у лесе, — згадзіўся Мішка. — Толькі каб без ружжа!..

— Дык вось, унучак, чаму цябе намалявалі, — усміхнуўся стары мядзведзь. — А зараз пойдзем на пчальнік — пачастую цябе мёдам.

— Якім мёдам? — аблізнуўся Мішка. — Верасовым?

— Няўжо ты яшчэ не ведаеш? — здзівіўся стары мядзведзь. — Пчолы новы гатунак вывелі. Сарока казала — алімпійскі!

І мядзведзі звярнулі з прасекі ў лес.

**ВЯЧАСЛАЎ ГІЛЕВІЧ**

*У якім годзе праводзіліся алімпійскія гульні ў Маскве? У якім горадзе і калі былі апошнія? Хто быў іх талісманам? Праз колькі гадоў і дзе будуць праводзіцца наступныя? Чакаем вашых лістаў.*

**Янка Целушэцкі**

# ЛІСТАПАД

Наўрад ці ёсць у годзе месяц больш сумны і цёмны. Сонца няма. Зямля аддала цяпло і сумуе, як адзінокая ўдава.

Сцежка вядзе ў глыб лесу. Стынуць на скразняках светлыя апусцелыя бярэзнікі ды асіннікі. Лістота апала. Спакойнае, някідкае перапляценне фарбаў: жоўтых, карычневых, шэрых, чорных. Пахне балотнымі травамі, вільготным карэннем. Неяк ноччу прайшоўся тут першы замаразак, выбеліў шорсткія травы, захрусцеў пад нагамі зярністым інеем. Азябла старая яліна, нахмурылася, ускудлачылася.

Маркотны шэры дзень прыносіць тугу па далёкім леце і адыходзячай восені. У лесе не чуваць вясёлых птушыных пераборау, толькі шумяць-стогнуць аголеныя дрэвы. Але, усё ж, не засмучайцеся, хадзіце ў восеньскі лес. Адпачнеце, удыхнеце яго водар — і стане на дзіва спакойна і светла на душы.



# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК ПІША ВЕРШ

Аднойчы ночай вылезла мышка Пік-Пік з норкі і пачала шукаць, што б смачненька паесці.

Але ў доме не толькі не было нічога смачненькага, але не было ні таты, ні мамы, ні дзяўчынкі Веранічкі, ні коткі Пепіты!

Аказваецца, яны ўсе паехалі ў вёску да бабы з дзедам, а мышка праспала...

Раззлавалася мышка, пакрыўдзілася. „Усе мяне кінулі! Ну, нічога. Я і без іх пражыву."

Пачала мышка думаць, з чаго пачаць самастойнае жыццё.

Перш за ўсё трэба купіць шмат цукерак.

Цукеркі купляюць у краме за грошы.

Грошы прыносіць тата.

Ён атрымлівае іх за вершы.

А вершы тата піша сам, і праца гэта не вельмі складаная.

Праўда, мама таксама піша вершы, але пры гэтым яна ў левай руцэ трымае лыжку, якой памешвае ў каструлі, а ў правай руцэ — самапіску.

Не, так пісаць — сабе даражэй! Вось тата — кладзецца на канапу, закідвае нагу на нагу, бярэ сшытак і пачынае бубнець: „Бу-бу-бу! Тра-та-та-та-бу-бу-бу!" І нават час ад часу рукой з самапіскай памахвае ў паветры!

„Гэтак і я змагу!" — вырашыла мышка. — „Напішу вершы, атрымаю грошы і пабягу па цукеркі!"

Узяла Пік-Пік са стала ліст паперы і самапіску, залезла на канапу і пачала бубнець: „Бу-бу-бу! Гу-гу-гу! Пі-пі-пі!"

І нават самапіскай не паленавалася махаць.

Старалася мышка, старалася, а верша няма! Яна ўжо і аркуш перавярнула, і самапіску пакусала, а верш — не з'яўляецца!

Раззлавалася мышка, з'ела ліст, развінціла самапіску, а тут на фортку села шэрая незнаёмая варона. „Хто тут мышка Пік-Пік? Прымайце пасылку з вёскі!"

Не паспела мышка здзівіцца, як узрадавалася! Варона паляцела, а на стале застаўся вялікі пакунак, з якога смачна пахла.

Раздзерла яго хутчэй Пік-Пік, і адтуль высыпаліся грыбы, арэхі, морква, гарох, семачкі — і канечне, цукерачкі!

А зверху ляжала запіска: „Не сумуй, Пік-Пік, мы заўтра веремся!



**Мышка Пік-Пік напісала верш!**
*Мал. Агнешкі Ляшук.*

Тата, мама, Веранічка, Пепіта".

І ад радасці ў мышкі напісаўся верш:

„Вельмі я сябрам удзячна,
Бо люблю паесці смачна.
З'ем арэшкі, з'ем грыбочкі,
Не пайду ніколі ўпрочкі!"

З'ела мышка Пік-Пік усю пасылку і пайшла спаць. А праз сон усё прыкідвала, колькі зможа купіць цукерак на тыя грошы, што заплацяць ёй за такі цудоўны верш!

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

*Вучнёўская творчасць*

## АПІСАННЕ ПРЫРОДЫ НА АСНОВЕ АПАВЯДАННЯ Я. КОЛАСА „У СТАРЫХ ДУБАХ".

На беразе ракі Нёман разлёгся гай старых дубоў. Дубы стаяць важныя і спакойныя. Бусліныя гнёзды ляжаць чорнымі шапкамі на асірацелых дубах.

Недалёка дубоў на скошаным лузе стаяць нарыжэлыя стагі і пасуцца статкі. На сонцы гуляюць маленькія камарыкі-таўкунчыкі. Усюды ціха і прыемна.

Калі тапіўся Базыль, усё жыло сваім жыццём. Дубы стаялі спакойна. Толькі галкі перапалохаліся людскога крыку, сіваваронкі пазляталі з дрэваў і кружыліся з сярдзітым карканнем.

**Марэк Сахарчук,**
**V „а" клас**
**бельскай „тройкі".**

*Вершы Віктара Шведа*

### ДЗІРКА Ў НЫРКАХ

Адвячоркам з панадворка
Прыбег брудны ўвесь Рыгорка.
— Што рабіў ты там рукамі? —
Запытала хлопца мама. —
Ты ўжо голенькі, сынок,
А з цябе цурчыць пясок!
— Мо зрабілася ўжо дзірка
У маіх, матуля, нырках?

### НЕ НА МАЮ КІШЭНЮ

Пайшоў аднойчы ў магазін
З матуляю маленькі сын.
Звярнуўся да матулі ён:
— Купі ты мне магнітафон.
— Не выпаўню твайго хацення,
Не на маю гэта кішэню.
— Не змесціцца, — азваўся Стах,–
Я панясу яго ў руках.

### ПАМІДОР І ТРАЎКА

Мчалася машына, як віхор,
Правілы тлумачыць мама Слаўку:
— Стань — чырвоны свет, як памідор,
Едзь — калі зялёны, быццам траўка.

—Тата—памідор!—крычыць сынок,–
Трэба неадкладна затрымацца.
А цяпер зялёненькі лужок —
Можам мы ізноў наперад мчацца!

*ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК*

### ВОВАЧКА

Маці будзіць Вовачку:
– Вовачка, прачынайся, час у школу!
— Ды ну яе! Зноў Пятроў на перапынку біцца будзе.
— Вовачка, уставай.
— Не пайду. Зноў Захараў анучай для дошкі кідацца будзе.
— Вовачка, ты спознішся!
— Не, не пайду! Зноў Іваноў з рагаткі страляць будзе!
— Вовачка, як жа ты не пойдзеш, ты ж дырэктар школы!

### А АЛЕЙ НЕ РАЗЛІЎ

Маці вечарам паслала двух сваіх сыноў да суседкі за алеем. Было цёмна, і на зваротным шляху малы ўпаў і выпусціў міску з алеем.

— Ой, напэўна, разліў алей! — спужаўся старэйшы брат.

— Алей я не разліў, але міску ніяк не магу знайсці, — сумна адказаў малы.

### ВЯДОМА, ВЕДАЮЦЬ

Сын прынёс маці букет ружаў.
— Дзе ты іх узяў? — спытала яна.
— У Ізвіднавых.
— А яны аб гэтым ведаюць?
— Вядома, ведаюць. Іх бабуля доўга бегла за мной!

( В. Б. )

*А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А*



**Толькі адна трубка спалучана з тэлефонам. Хуценька знайдзі, з якім, каб названіць у „Зорку"**
**/ 210 - 33 /!**

********************************************

# ПІШУЦЬ ВУЧНІ

**Дарагая „Зорачка"!**

Я хачу табе раcказаць аб сустрэчы, якая адбылася ў нашай школе, у Трасцянцы. 27 верасня да нас прыехаў беларускі літаратар **Янка Целушэцкі**. На сустрэчы прысутнічалі вучні IV-VIII класаў. Аўтар расказаў нам аб сваім жыцці. Друкуе Я. Целушэцкі свае творы ў „Ніве" і іншых беларускіх выданнях у краіне і за мяжой. Нядаўна яго творы друкаваліся ў часопісах „Маладосць" і „Беларусь". Верш „Я хацеў бы быць ветрам" быў узнагароджаны ў конкурсе беластоцкага радыё. Нядаўна пісьменнік выдаў свой першы зборнічак „Імгненні".

Потым дзеці задавалі аўтару пытанні. На заканчэнне я паднясла кветкі і падзякавала за цікавае спатканне.

**Кася Максімчук**

*ПАЗНАЁМІМСЯ*

СССР, 238100, Калининградская обл., г. Черняховск, ул. Ленина, 10. Детско-юношеский центр. КИД „Журнавлик", **Евсеев Леон** (11 гадоў, вучыцца ў VI класе, збірае каляндарыкі, пустыя блокі і пачкі ад цыгарэт (сам не курыць!), цікавіцца літаратурай).

* * *

Беларусь, 220018, г. Мінск, вул. Адзінцава, д. 27, кв. 84, **Сакалоўская Оля** (14 гадоў, займаецца лёгкай атлетыкай, хоча пазнаёміцца з дзецьмі 13-15 гадоў).

* * *

СССР, 623510, Свердловская обл., г. Богданович, ул. Октябрьская, 88-27, **Чиж Марина** (13 гадоў, збірае паштоўкі з катамі і сабакамі, вельмі любіць жывёл).

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты-55, ул. Келдыша 7а-20, **Кожевникова Наташа.**

## „КАЦЮШЫ" І „НАТАШКІ"

Маскоўская вуліца празвала іх „Кацюшамі", варшаўская перайменавала іх на „Наташак". Яны гэтым не ўзрушаюцца — самае важнае, каб інтарэс развіваўся. Савецкія прастытуткі на польскім рынку; „інтэрдзевушкі" на замежных гастролях. Ужо мнагалікасць найменаванняў сведчыць аб тым, што прадстаўніцы найстарэйшай прафесіі родам з Менска, Кіева або Львова добра прыжыліся ў нашай краіне. Ніхто дакладна не ведае, колькі іх — сто, тысяча, ці больш. Паводле польскага права прастытуцыя не з'яўляецца злачынствам, а нават парушэннем закона, калі толькі паненка дарослая.

Прымяняючыя нізкія цэны паненкі з-за Буга сталі запаўняць прабел паміж раскошнымі „дамамі" з дарагіх гасцініц і рэстаранаў і „грузінкамі", якіх назва выводзіцца ад польскага слова „груз" (друз), калі пасля вайны за бясцэнак прапанавалі свае паслугі на развалінах горада. Попыт на „інтэрдзевушак" вялікі, а калі так, дык у бізнес увайшла арганізаваная мафія, якую сталі называць „курвхоз". Дзейнічаюць яны вельмі проста. У Польшчу прыязджае група дзяўчат, заданне якіх — задаволіць кліентаў. Астатняе арганізуюць стрыманыя, але рашучыя маладыя людзі, выгляд якіх не заахвочвае да сварак. Аднак, паліцэйскія хронікі рэгіструюць узрост ліку сутычак паміж польскімі альфамі і савецкімі ахоўнікамі, хаця ніводзін з бакоў не скардзіўся ў паліцыю на сапернікаў.

У сярэднім „Наташка" бярэ за адзін „нумар" каля 50 доляраў, гэта значыць больш за паўмільёна злотых. Калі долары прапусціць праз савецкі чорны рынак, атрымоўваецца фантастычна! Палавіна заробленых паненкамі грошай ідзе на арганізацыю, другая палавіна — гэта іхні зыск. Не дзіва, што „курвхозы" не маюць кадравых клопатаў.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, што мая кватэра знаходзіцца ў якімсьці гатэлі ці блоку. Падыходжу да дзвярэй і здагадваюся, што ў сярэдзіне кватэры ёсць зладзеі. Што мне рабіць? Як увайду, могуць пабіць. Лепш паклікаць паліцыю. Бягу вуліцай і сустракаю паліцыянтку, якой усё расказала. А яна мне на гэта: „Напішыце паданне!" „Здурэла яна ці што?" — падумала я і пабегла далей. Сустракаю двух паліцыянтаў, а яны мне адказалі, што такімі справамі не займаюцца. „Вось да чаго мы дайшлі", — зноў падумалася мне. Гляджу, навокал многа людзей, штосьць прадаюць, штосьць купляюць. Сярод іх мая шэфова купляе яйкі. Яек я не бачыла, але ведаю, што яна іх купіла. Павярнула я назад, дахаты. Уваходжу ў яе і бачу, што зладзеі ўсё забралі. Нават пасцель і дываны. Астаўся толькі ці то тапчан, ці то ложак. Стаю, гляджу і думаю: „Пэўна, зладзеі ўвайшлі праз вакно, якое было адчынена. Што гэта ўсё можа абазначаць?

**Валя**

Валя! Твой сон нядобры. Абазначае для цябе нейкую небяспеку, страту або нават сварку ці варожасць. Зладзеі ніколі не прадвяшчаюць нічога добрага. Тым больш, што былі яшчэ паліцыянты, а па іх таксама нічога добрага спадзявацца нельга. Мо была нейкая надзея на павышэнне тваіх заробкаў (маю на думцы тыя яйкі, якія купляла твая шэфова), але, відаць, нічога з гэтага не выйдзе, бо ж ты яек тых не бачыла.

**АСТРОН**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Хачу апісаць табе адно смешнае здарэнне, якое я перажыла гэтым летам. Была цёплая, парная раніца. Мы з сяброўкамі выбраліся ў Супрасль пакупацца і пазагараць. Я ляжала, удыхаючы прыемны водар травы. Вакол хадзілі людзі, бавіліся дзеці — скакалі ў ваду, пырскаліся, гулялі ў мяч.

Якраз наблізілася групка моладзі. Адны хлопцы. Разамлелыя ў сонцы, яны ішлі ў адных штоніках, бліскаючы загарэлымі, здаровымі целамі. У аднаго з іх плаўкі неяк дзіўна тырчалі наперад. Ён хацеў паправіць іх, пакратаў рукой, але эфект быў цалкам адваротны. Штонікі напружыліся... і далі наперад. Сябры, з якімі ён ішоў, пачалі рагатаць. Людзі, што ляжалі на траве і загаралі, пачалі падымаць галовы і прыглядацца да выразна ўзведзенага члена гэтага хлопца, хаця быў ён у плаўках. Хлопец пачырванеў, ішоў моўчкі далей. Пасля моладзь села на разложаную пасцілку.

Відаць, меў ён надалей клопат, бо неспадзявана сарваўся з зямлі, разагнаўся і ўскочыў у халодны нурт ракі. Купаўся нават даўгавата, але, калі вылез, усё было па-ранейшаму. Не дапамагла ні ахалода, ні плаванне. Быццам хтосьці яму штучны член прышпіліў.

Не абціраючыся, хлопец расцягнуўся на густой мураве. Паляжаў нейкую хвіліну, тады ўстаў, пачаў хадзіць навокал. Хлопцы, яго сябры, ізноў дружна зарагаталі. Усе падглядвалі, што будзе далей.

Малады чалавек вырашыў заняцца „гімнастыкай". Прылёг на траву і пачаў рабіць „помпкі". Падымаўся на руках уверх і апускаўся на траву, выцягнуўшыся ўздоўж.

Але, мусіць, і гэта не дапамагло, бо хлопец, злосны, устаў, але ўсё было, як і раней. Сябры неўзабаве падняліся і некуды пайшлі. Усе навокал зноў пакладаліся і сталі загараць.

Мілае Сэрцайка! Можа, ты ведаеш, што яму магло б дапамагчы ў той момант? Хлопец быў ужо дарослы, было яму гадоў 18—20. І чаму так здарылася якраз на пляжы?

**Аня**

Аня! На пляжы такое здараецца даволі часта. Хлопец, мо нават не спакушаны яшчэ, нагледзеўся на голыя жаночыя целы, разамлеў на сонцы, вось і не мог даць сабе рады са сваім сексуальным пажаданнем.

Рабіў, бедны, што мог. І ў ваду халодную скакаў, і церабіў крыху як мог, і нават „помпкі" рабіў — нічога не дапамагала. Душа рвалася ў рай!

А трэба было да дзяўчыны добрае рвануць або прынамсі ў кусты — можа эфект быў бы больш канкрэтны, а тады можна было б і пазагараць.

**СЭРЦАЙКА**

P.S. А падглядаць такое непрыгожа, ой непрыгожа. Гэта — таксама адхіленне ад нормы.

**С.**

***********************************************



## ЗАПРАШАЮ НА ШПАЦЫР!

Восень у разгары! Прырода рыхтуецца да зімы. Шпацыраваць штораз менш хочацца. Аднак і асенні краявід, хаця дыхае сумам, можа быць цікавы. Мне пашанцавала жыць на ўскраіне Палацовага парку ў Белавежы. Прырода ў мяне за вакном — можна яе „смакаваць", не выходзячы з дому. Дык я ўсё ж такі не магу ўседзець. Выходжу хаця б на паўгадзіны. Напаць вочы незвычайнымі колерамі, формамі, постацямі, прытуліцца да прыгажосці родных месц, быццам да сэрцаў найдаражэйшых людзей. Сёння забіраю і Вас...

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота аўтара**



***********************************************

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### З ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ

#### ПАМІДОРНЫ СОУС ПА-МІЛАНСКУ

На паўлітра цёмнага соусу трэба ўзяць 40 г масла, 1 баначку памідорнага перацёру, 200 г пячурыц, крыху часнаку ў парашку, крыху булёну з птушкі.

Цёмны соус робім наступным чынам. Тлушч, цыбулю і муку падсмажваем разам і, памешваючы ўвесь час, расціраем на гладкую масу з булёнам.

Для соусу па-міланску спачатку тушым грыбы ў масле. Дадаем цёмны соус, памідорны перацёр, грыбы і прыправы; пакідаем так на некалькі мінут на невялікім агні.

Соус падаюць да рысу, дробна нарэзанага макарону і птушкі.

#### ПАМІДОРНЫ СОУС З МЯСНЫМІ КЛЁЦКАМІ

На паўкілаграма змеленага мяса трэба ўзяць 250 г цертай булкі, 50 г жоўтага сыру (найлепш „пармезану"), крыху часнаку ў парашку, пасечанай зеляніны пятрушкі і базыліі, 1 яйка, соль, перац і памідорны соус (глядзі ў папярэднім нумары).

Усе прадукты (апрача памідорнага соусу) перамяшаць так, каб атрымалася маса, якую можна ляпіць. Рабіць маленькія клёцачкі і варыць іх у памідорным соусе.

Падаваць з рысам ці макаронам.

#### ПАМІДОРНЫ СОУС З КЛЁЦКАМІ З ПТУШКІ

На 250 г варанага і раздробленага ў міксеры мяса птушкі трэба ўзяць 50 г цертай булкі, пасечаную зеляніну пятрушкі, адно яйка, крыху солі, перцу і памідорны соус.

З усіх прадуктаў, так як і ў папярэднім рэцэпце, зрабіць гладкую масу, з якой фарміраваць маленькія клёцачкі. Варыць іх у памідорным соусе.

#### ПАМІДОРНЫ СОУС З ПТУШЫНАЙ ПЯЧОНКАЙ

На 250 г птушынай пячонкі ўзяць 30 г алею, 1 цыбуліну і памідорны соус.

На гарачым алеі падсмажыць пасечаную цыбулю і пячонку, дробна пасячы пячонку, дадаць у памідорны соус.

#### МЯСНЫ СОУС ПА-НЕАПАЛЬСКУ

На 250-500 г печанага мяса ўзяць шклянку соусу, які атрымаўся пры пячэнні мяса, 1 кілішак белага ці чырвонага віна, 1 баначку памідорнага перацёру, 200 г дробна пасечаных грыбоў.

Рэшткі печанага мяса дробна нарэзаць, соус развесці вадою, а пасля ўсё варыць каля дзвюх гадзін, пакуль соус не стане густы. Тады дадаць памідорны перацёр і грыбы.

Падаюць гэты соус да макарону.

#### ПУШЫСТЫ СОУС „МАРЦІНА"

На 200 г маянезу трэба ўзяць шклянку смятаны і 1 лыжку лімоннага соку.

Гатовы маянез перамяшаць асцярожна з лімонным сокам. Смятану збіць, каб стала цвёрдая, паволі дадаваць яе да маянезу, памешваючы.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ІМПАРТГУМАР

П'яніца на вакзале абдымае слуп, на якім вісіць гучнагаварыцель. Раптам з гучнагаварыцеля раздаецца жаночы голас:

— Цягнік у Гайнаўку ад'язджае з трэцяга перона.

— А ну, дурненькая, паўтары яшчэ раз!

— Паўтараю, цягнік...

* * *

Сядзіць варона на дрэве. Прыбягае заяц.

— Варона, ты што там робіш?

— Нічога, аблавухі, не раблю. Куру.

— Дай і мне пакурыць.

Толькі заяц прысеў з папяросай пад дрэвам, як аднекуль лісу прынясло.

— Ты чаго, касавокі, тут разваліўся?

— Не маю нічога да работы. Куру.

— Дай і мне пакурыць.

— Ты ў вароны папрасі.

Неўзабаве абое дымілі пад дрэвам. А тут як тут з кустоў выскачыў паляўнічы, бах-бах... Заяц і ліса ляжаць мёртвыя.

Варона выплюнула недакурак, паднялася і паляцела. Калі ляцела, закаркала: „Дур-р-рні! Каб нічога не рабіць, трэба высока сядзець".

* * *

Мужчына прыйшоў да лекара:

— Доктар, баляць мне ныркі.

— Духі п'еце?

— П'ю, але не памагае.

* * *

Жонка:

— Дакуль ужо гэта будзе, чаму ты п'еш водку?!

— П'ю таму, што яна вадкая, была б цвёрдая — грыз бы.

* * *

П'яны муж увальваецца ў сваю кватэру і падае ля парога. Жонка бярэ венік, лупцуе яго і верашчыць:

— Будзеш піць, скаціна?! Будзеш піць, скаціна?!

Муж адкрывае вочы:

—На-лі-вай...

Падборку зрабіў

**Янка Целушэцкі**






*-Дружа, гэта самае вялікае адкрыццё ў гісторыі чалавецтва.*

**Мал. Р. Ясновіча.**

## ДАГНАЦЬ ЕЎРОПУ

Солтыс сказаў, што цяпер будзем даганяць Еўропу. Солтыс скажа — вёска зрабіць мусіць, няма іншага выхаду. Сабраліся мы каля сталовай.

— Ты, солтыс, у які бок яна пайшла, тая Еўропа? — спытаўся найстарэйшы Квасняк. Малодшыя разглядаліся ўважліва.

— Можа матацыклет узяць? — прапанаваў Мачуга. — Хутчэй будзе.

— Тут не ў бегатні справа, — расхвальваўся солтыс. — Мусім дагнаць Еўропу ў культурным і грамадскім сэнсе.

— Быццам бы як? — не зразумеў наймалодшы Квасняк.

— Бачыце, людзі ў Еўропе жывуць інакш, чым мы. Лепш. Піва, напрыклад, п'юць з банак.

Наступіла агульнае ажыўленне.

— З банак? — спытаў з недаверам Гмырала.

— А з банак! — падтакнуў солтыс.

— О, бляха! Добра, можам папрабаваць. Мачуга, бяжы за півам, — разахвоціўся найстарэйшы Квасняк. — Я прыдбаю нейкія банкі.

Мачуга прывалок скрынку піва. Квасняк прынёс некалькі банак.

— Узяў я тое, што пад руку папала, — сказаў. — Пераліваем!

— Бацюхны! — войкнуў Гмырала. Яму папалася банка ад алейнай фарбы. У мяне была банка ад бычкоў у таматным соусе. Найгорш выйшаў на гэтай культуры солтыс — мабыць растваральнік шкодзіць на пячонку. Браты Квасnякі прынеслі пасудзіну ад аўтамашыннага лака. Лак быў сіні. Гналі мы Еўропу, прытрымоўваючыся сіняй паласы на дарозе — браты Квасnякі беглі першымі.

І скажу толькі адно: каб Еўропа была ў нужніку Квасnякоў, дагналі б мы яе ў пяць мінут.

**Міхал Б. Ягелла**

(„Карузеля")

### ДЭМАНАПАЛІЗАЦЫЯ

Вяртаецца муж з камандзіроўкі дадому і застае голую жонку ў ложку з незнаёмым чалавекам.

— Здрада?!! — верашчыць ён, растапырыўшы рукі.

— Не, мой каханы, дэманапалізацыя...

*З украінскага пераклаў*
*Васіль Петручук*

### АСАЦЫЯЦЫЯ

— Пан генерал, — пытаецца сяржант Валешка, — што траціць нявеста пасля шлюбу?

— Значыцца, пасля шлюбу?

— Так, пасля шлюбу што губляе нявеста, пан генерал?

— Гммм, вядома што, цноту.

— Але ж не! Дзявочае прозвішча, пан генерал.

*(З кніжкі „Zabawa na 102...")*

## ВАРАЖБА ПА КАРТАХ

Вазьміце палітычную карту свету, парэжце яе на кускі, злажыце ў калоду іператасуйце.

Калі вам папала карта з выявай Германіі, вы разбурыце сценку ў сваёй кватэры і аб'яднаецеся з суседзямі.

На карце Прыбалтыка — глядзіце, каб, пераходзячы вуліцу, не папасці пад танк.

Фінляндыя — не ляціце самалётам „Аэрафлота" — угоняць у Швецыю.

Швецыя — не ляціце самалётам „Аэрафлота" — угоняць у Фінляндыю.

Ватыкан — трэба слухаць папу.

Ірак — вам не шанцуе. Цягніце іншую карту.

Францыя — вас чакаюць поспехі ў каханні. „Шэршэ ля фам", не адкладваючы!

Востраў Крыт — ваша становішча крытычнае.

Ліхтэнштэйн або Шпіцберген — дачка выйдзе замуж за яўрэя і выедзе ў Ізраіль.

Карэйская Народна-Дэма-кратычная Рэспубліка — вы няўдачнік.

Гавана — вы няўдачнік у кубе.

Курылы — дзед прынясе папяросы з магазіна для інвалідаў і пакіне вам недакуркі.

Катар — у вас выкінуць апендыцыт.

Іспанія — ваша жыццё будзе падобнае на карыду. Але не дражніце наваколля чырвоным колерам.

Індыя — вы атрымаеце спадчыну, будзеце несправядліва арыштаваны, дачакаецеся глыбокай старасці і ажэніцеся з жабрачкай, якая стане княжной і акажацца вашай дваюраднай цёткай.



*********************************************************************

Ніва

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa

1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.

2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.

3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12. 500 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.